Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

# Літаратура і мастацтва

ISSN 0024-4686

№ 29 (4778) 25 ліпеня 2014 г.

## Пункціірам

✔ Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка павіншаваў народнага артыста краіны Генадзя Гарбука з 80-годдзем. «Унікальны мастацкі талент і высокі прафесіяналізм зрабілі Вас адным з выдатных майстроў беларускай сцэны, чые ролі кранаюць сэрцы гледачоў жыццёвай праўдай, увасабленнем лепшых рыс народнага характару і псіхалагічнай глыбінёй»,— гаворыцца ў віншаванні. Кіраўнік дзяржавы адзначыў, што створаныя артыстам вобразы духоўна выхавалі не адно пакаленне.

✔ Прэзідэнт Беларусі сваім распараджэннем зацвердзіў рашэнне савета спецыяльнага фонду Прэзідэнта па сацыяльнай падтрымцы адораных навучэнцаў і студэнтаў. Грашовымі прэміямі заахвочаны 715 чалавек. Сярод іх — пераможцы міжнародных і рэспубліканскіх алімпіяд, конкурсу «Студэнт года — 2013» ды іншых значных моладзевых спаборніцтваў.

✔ Зацверджаны новыя апісанні і выявы эмблемы спецыяльнага фонду Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь па падтрымцы таленавітай моладзі, а таксама нагрудных знакаў 'Лаўрэат спецыяльнага фонду Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь па падтрымцы таленавітай моладзі» і «Лаўрэат спецыяльнага фонду Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь па сацыяльнай падтрымцы здольных навучэнцаў і студэнтаў». У новым дакуменце ўдакладняецца кола асоб, якія маюць права на заахвочванне з гэтага фонду.

✔ Дні культуры Туркменістана праходзяць у Беларусі. Урачыстая цырымонія іх адкрыцця адбылася ў Белдзяржфілармоніі, дзе пасля афіцыйнай часткі прайшоў канцэрт з удзелам Дзяржаўнага ансамбля танца Туркменістана і артыстаў эстраднага аркестра «Алтын асыр», салістаў аркестра народных інструментаў ды ўдзельнікаў музычна-танцавальнага і фальклорнага ансамбля «Дэхістан» Палаца культуры нафтавікоў дзяржаўнага канцэрна «Туркменнебіт».

✔ Літаратурны музей Максіма Багдановіча зноў збірае сяброў і прыхільнікаў творчасці самага рамантычнага беларускага паэта на традыцыйнае свята паэзіі і песні «Ракуцёўскае лета», якое адбудзецца 27 ліпеня. У праграме — сустрэча каля памятных камянёў і ўскладанне кветак, літаратурна-музычная імпрэза, у якой возьмуць удзел вядомыя айчынныя творцы.

✔ Мітынг-рэквіем, прымеркаваны да 100-годдзя з пачатку Першай сусветнай вайны, адбудзецца ў Смаргоні 1 жніўня. Цяпер у парку Перамогі рыхтуецца да адкрыцця маштабны мемарыяльны комплекс памяці герояў і ахвяр Першай сусветнай вайны. Ужо гатова кампазіцыя з трох помнікаў: «Крылаты геній воінскай славы», «Салдаты Першай сусветнай вайны» і «Уцекачы». Пабудавана капліца, усталяваны камень памяці, на якім будзе размешчаны тэкст звароту да нашчадкаў. Абмяркоўваецца пытанне будаўніцтва музея памяці на тэрыторыі комплексу і ўсталявання чацвёртай кампазіцыі «Праклён вайне».

✔ Сумесная летняя школа Белдзяржуніверсітэта і Штутгарцкага ўніверсітэта (Германія), якая ўжо на працягу некалькіх дзён працуе ў Мінску, накіравана на асэнсаванне мастацкай і архітэктурнай спадчыны XVII — пачатку XX стагоддзя, асабліва неакласіцызму. Галоўная тэма занятак — актуалізаваць тое, што засталося ад продкаў, для стварэння сучаснага гарадскога асяроддзя.


Хто адкажа за драматургію? 6


Застанецца напісанае. На сцяне! 9


Канчаткі такія канчаткі... 14


Пазнаюць беларуса па гаворцы 15



*Фота Марыны Весялухі*

*Падчас фэсту «Наш Грунвальд» можна было акунуцца ў атмасферу сярэднявечча: пабачыць смелых рыцараў у баі і за адпачынкам, а таксама прыгожых паненак, уладальніц сэрцаў воінаў.*

# Помніць пра Грунвальд

Больш як 600 удзельнікаў з Беларусі, Расіі, Украіны, Літвы і Польшчы; дзве сцэнічныя пляцоўкі, на якіх цягам двух фестывальных дзён выступіла амаль 25 музычных калектываў; маштабная рэканструкцыя бітвы з удзелам больш як дзвюх соцень воінаў; горад майстроў, вялікі сярэднявечны лагер, старажытныя забавы для наведвальнікаў — у музейным комплексе «Дудуткі» прайшоў VI Міжнародны фестываль «Наш Грунвальд».

Падзея, што адбылася 15 ліпеня 1410 года на тагачаснай тэрыторыі Прусіі, каля мястэчак Грунвальд і Таненберг (сёння гэтыя землі знаходзяцца ў складзе Польшчы), мае вялікае значэнне ў гісторыі ўсёй Еўропы. У гэтай бітве аб'яднанае войска Вялікага Княства Літоўскага і Каралеўства Польскага разграміла надзвычай моцнага праціўніка — войска Тэўтонскага ордэна.

— Сёння Грунвальдская бітва — не вельмі вядомая падзея ў Беларусі, — распавёў адзін з арганізатараў фэсту «Наш Грунвальд» дырэктар экстрым-тэатра «Берсерк» Аляксандр Рак. — Аднак яна мае надзвычай важнае значэнне для нашай краіны. Гэта была самая маштабная бітва ў гісторыі сярэднявечча, і фактычна да пачатку Першай сусветнай вайны яна заставалася такой у гісторыі чалавецтва па колькасці ўдзельнікаў і па важнасці вынікаў. Для нас вельмі істотна, што адну з ключавых роляў у гэтай бітве адыграла войска Вялікага Княства Літоўскага, якое складалася ў асноўным з прадстаўнікоў беларускіх земляў. Адметна таксама, што два кіраўнікі войска саюзнікаў былі этнічнымі беларусамі. Гэта стрыечныя браты Ягайла і Вітаўт. Па выніках бітвы ВКЛ і Польшча занялі пазіцыі лідараў ва ўсёй Еўропе, што вызначыла гістарычны шлях развіцця многіх еўрапейскіх краін на стагоддзі наперад.

Заканчэнне чытайце на стар. 8



*У Саюзе пісьменнікаў Беларусі*

# Васіль Шырко: «Няма рэгіёна, дзе б я ні пабываў»

Празаік і публіцыст, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь Васіль Шырко нядаўна ўганараваны медалём Францыска Скарыны.

**— Васіль Аляксандравіч, што для вас значыць гэта ўзнагарода?**

— Для мяне яна нечаканая. І вельмі важная! З таго часу, як я атрымаў Дзяржаўную прэмію, прайшло 16 год. Медаль — не менш радасная і ўрачыстая падзея ў маім жыцці.

**— Вы шмат гадоў працуеце ў журналістыцы. З якімі думкамі азіраецеся на ўласны творчы шлях?**

— Яшчэ ў чацвёртым класе я вырашыў: буду паступаць толькі на журфак. У школе вучыўся сярэдне, але ўсе іспыты ў ВНУ вытрымаў на «выдатна» і стаў студэнтам Белдзяржуніверсітэта. Спачатку займаўся выключна вучобай, пакуль не зразумеў: трэба пісаць! Пачаў публікавацца ў «Чырвонай змене» ды іншых газетах. У рэспубліцы няма ніводнага рэгіёна, дзе б я ні пабываў, і нават па некалькі разоў. Пазней лёс прывёў мяне ў літаратурна-драматычную рэдакцыю Беларускага тэлебачання. Тут пашчасціла працаваць з Валянцінам Мыслівцом, Іосіфам Скурко, Міколам Маляўкам, Алесем Кажадубам, Сяргеем Панізнікам. Разам стваралі тэлеперадачы. Адна з іх — «Ліра», дзе вядомыя пісьменнікі — Сяргей Грахоўскі, Янка Брыль ды іншыя — адказвалі на нашы пытанні непасрэдна ў студыі. Творчае асяроддзе паспрыяла таму, што я пачаў пісаць вершы, з якімі выступаў на старонках «ЛіМа», «Маладосці»...

**— Што хвалюе сёння? Пра што пішаца?**

— Не зроблена яшчэ шмат. Напрыклад, вельмі люблю дасціпны гумар. Сапраўдны майстар такіх сюжэтаў — Кандрат Крапіва, пра якога я, дарэчы, таксама пісаў. Журналістыка ўвогуле дае магчымасць сустракацца са знакамітымі людзьмі. Так, героямі маіх публікацый былі заслужаны майстар спорту СССР Аляксандр Мядзведзь, Героі Беларусі Павел Марыеў (былы генеральны дырэктар БелАЗа), Віталь Крэмко (былы старшыня калгаса «Кастрычнік»), Аляксандр Дубко (Герой Сацыялістычнай Працы, былы старшыня Гродзенскага аблвыканкама). Цяпер у суаўтарстве з Алесем Карлюкевічам працуем над кнігай з умоўнай назвай «Уздзеншчына літаратурная». За творчае жыццё я напісаў каля 500 нарысаў. У мяне ёсць вучні. Сярод іх — Уладзімір Сауліч, драматург, уласны карэспандэнт «Сельскай газеты», публіцыст Мікола Панасюк.

**— Кіраўніцтва СПБ рэгулярна ладзіць вандроўкі па рэгіёнах Беларусі. Ці знаходзіце вы падчас гэтых паездак матэрыял для кніг?**

— Канечне. Я не веру ў тое, што цалкам выдуманы сюжэт можа стаць асновай добрага літаратурнага твора. І з таго, што сустракаю падчас падарожжаў, у сваёй творчасці так ці інакш выкарыстоўваю амаль усё.

**— Вашы публіцыстычныя творы змешчаны ў літаратурна-мастацкай перыёдыцы суседніх краін. Якія стасункі ў вас з літаратарамі замежжа?**

— Да сённяшніх трагічных падзей ва Украіне я падтрымліваў цесную сувязь з Луганскам, друкаваўся ва ўкраінскіх часопісах. Некалькі апавяданняў перакладзена на казахскую мову.

**— Што найбольш хвалюе вас у цяперашнім літаратурным працэсе?**

— Некалі «ЛіМ» надрукаваў цудоўны артыкул Уладзіміра Паўлава «Асцярожна, графаманы!». Так, маюць права на жыццё вершы без знакаў прыпынку. Але ўсё ж ставіцца да літаратуры ў цэлым і да прыёму творцаў у Саюз пісьменнікаў Беларусі трэба сур'ёзна. Каб аўтара чыталі, яму варта пісаць жыццёвыя, надзённыя творы. Тым, хто не адчувае слова, у літаратуры не месца.

**— Вы шмат пішаце і для дзяцей. Раскажыце, калі ласка, пра вашу новую кнігу.**

— Родную вёску Чурылава я назваў бы казачнай. Адсюль родам і пісьменніца-казачніца Таццяна Цехнябедзіна. А яшчэ гэта малая радзіма цудоўнага казачніка Алеся Якімовіча, аўтара мноства цікавых твораў. На мяне моцна паўплывала яго творчасць, і ў выніку з'явіўся вобраз стагадовага дзеда Манюкіна, які, нягледзячы на ўзрост, нават ездзіць на матацыкле. З ім здараюцца самыя неверагодныя прыгоды. Літаральна цягам тыдня я напісаў пра яго танюткую кніжачку — «Дзед Манюкін не салжэ». Другая — «Дзед Манюкін і ўнукі». У выніку яны склалі адну — «Дзед Манюкін і ўнукі», якая зусім хутка павінна выйсці ў Выдавецкім доме «Звязда». Хацелася б, каб дзеці вучыліся ў майго героя быць добрымі, жыццярадаснымі, клапаціцца пра сваё здароўе. Ды і для дарослых, думаю, выданне таксама будзе прыдатным.

**Гутарыла Яна ЯВІЧ**

*За падзеяй*

# Адкрыццё мінулага — дарога да будучыні

У Мінску ў Міністэрстве замежных спраў адкрылася выстаўка, прысвечаная аўтарскаму праекту Уладзіміра Ліхадзедава «У пошуках страчанага».

Добра вядомы ў краіне і за яе межамі калекцыянер і гісторык пазнаёміў беларускіх дыпламатаў і кіраўнікоў дыпламатычных місій іншых дзяржаў у Мінску з рэпрадукцыямі старых паштовак са сваіх збораў. Тэматычна выстаўка падзелена на дзве часткі. Першая — расповед з нагоды 70-годдзя вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Паштоўкі, выдадзеныя ў пачатку мінулага стагоддзя, паказваюць Мінск даўні, цікавы старымі будынкамі. І побач — здымкі разбурэнняў і страт. Здымкі часін Вялікай Айчыннай і першых пасляваенных гадоў. Гэтыя выявы дапаўняюць фатаграфіі, якія падказваюць сучасны кантэкст старых адрасоў. Такі відэашэраг падштурхоўвае да разваг, нагадвае пра зніклае і ўражвае зробленым.

Другая частка выстаўкі — старыя паштоўкі, прысвечаныя Першай сусветнай вайне. Падбор іх настолькі цікавы і грунтоўны, што дазваляе па-новаму паглядзець на падзеі стагадовай даўніны. Першая сусветная на паштоўках — гэта і няпростае жыццё на акупаванай тэрыторыі, побыт, які арганізоўвалі не толькі мірныя нашы прашчуры, але і рускія ды нямецкія салдаты.

Адкрываючы выстаўку, намеснік міністра замежных спраў Рэспублікі Беларусь Валянцін Рыбакоў адзначыў, што калекцыя старых паштовак Уладзіміра Ліхадзедава з'яўляецца добрым мастом у зносінах паміж краінамі і народамі, а таксама нагадаў пра тыя ўражанні замежных грамадзян у ЗША ад праекта «У пошуках страчанага». Міністр інфармацыі Беларусі Лілія Ананіч падкрэсліла, што за апошнія гады пры падтрымцы дзяржавы выдадзены шэраг філакартычных альбомаў У. Ліхадзедава, якія, несумненна, запатрабаваны ў бібліятэках, школах і ВНУ і з'яўляюцца сапраўднымі дапаможнікамі па гісторыі нашай Айчыны.

Лаўрэат Прэміі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь «За духоўнае адраджэнне» Уладзімір Ліхадзедаў распавёў, як збіралася калекцыя, які патрыятычна-выхаваўчы рэсурс маюць у сабе старыя паштоўкі.

**Сяргей ШЫЧКО**

# Альбом рарытэтаў

Прэзентацыя альбома, які пабачыў свет у Выдавецкім доме «Звязда», прайшла у Дзяржаўным музеі гісторыі Вялікай Айчыннай вайны.




Наведвальнікі, госці галоўнай скарбніцы ваеннай памяці краіны, пазнаёміліся з выданнем «Партызанская зброя». Дырэктар музея Мікалай Скоблеў расказаў пра тое, як рыхтавалася кніга, калекцыя якога ўзроўню стала прадметам увагі даследчыкаў і выдаўцоў. Падобнага альбома ўвогуле болей не існуе ў ваенна-гістарычным крыніцазнаўстве. З просьбай пракаментаваць падзею мы звярнуліся да намесніка дырэктара Выдавецкага дома «Звязда» Алены Стэльмах:

— Работа над выданнем, якое разышлося за лічаныя месяцы і, несумненна, патрабуе перавыдання, захапіла нас, прынесла сапраўдную асалоду, — адзначыла Алена Анатольеўна. — Мне здаецца, што ў супрацоўніцтве з музеем мы маглі б стварыць цэлую серыю альбомаў, якія распавялі б пра розныя калекцыі, сабраныя за мінулыя дзесяцігоддзі. Такога кшталту выданні толькі пашыраць прастору памяці пра гераічныя і драматычныя часіны Вялікай Айчыннай у Беларусі. А тое, што даследчыкі, навуковы патэнцыял музейшчыкаў дастатковы для рэалізацыі падобных задум, сумнявацца не даводзіцца. Пераконваюць у гэтым унікальныя, дакладна выбудаваныя экспазіцыі ў новым музейным будынку. Спадзяёмся, ініцыятыву музейшчыкаў і нас, выдаўцоў, як і ў выпадку з «Партызанскай зброяй», падтрымаюць у Міністэрстве інфармацыі краіны.

**Мікола БЕРЛЕЖ**

# Самы лепшы падарунак



Рэспубліканская акцыя «Лета з добрай кнігай» працягвае знаёміць дзятву з карыснымі і цікавымі кніжкамі. Гэтым разам цікавыя гісторыі, конкурсы і падарункі маленькім чытачам — выхаванцам дзіцячага аздараўленчага летніка «Івалга» Маладзечанскага раёна — прывезла галоўны рэдактар штотыднёвіка «Літаратура і мастацтва» дзіцячая пісьменніца Таццяна Сівец.

У добрай кнігі не бывае канікул, упэўнена Таццяна Сівец, а таму летам яна мусіць прыйсці ў кожны парк, бібліятэку і, канечне, летнік. Падчас сустрэчы творца прэзентавала сваю кнігу «Самы лепшы падарунак», прысвечаную прыгодам маленькай дзяўчынкі Танечкі. Кніга пабачыла свет у Выдавецкім доме «Звязда». Імяніннікам падарыла выданні, а вось за астатнія аўтар кнігі прапанавала пазмагацца: напрыклад, прапанавала конкурс на самае цікавае пытанне. Малыя цікавіліся пра ўсё на свеце: у колькі год пачала чытаць, як любіць адпачываць, якія кнігі самыя любімыя… На ўсе пытанні Таццяна адказала з лёгкасцю, а вось растлумачыць, чаму стала пісьменніцай, не змагла. «Цяпер буду некалькі дзён ламаць галаву над адказам», — паабяцала яна і ўручыла цікаўнаму чытачу, які і злавіў яе на цяжкім пытанні, падарунак.

Гадзіны для творчай сустрэчы не хапіла — дзятва ніяк не хацела развітвацца з госцяй. Дырэктар летніка Мікалай Крывы прызнаўся, што цікаўнасць не выпадковая: у гэтай змене дзеці з творчымі здольнасцямі. Гэта было заўважана і падчас імправізаванага канцэрта: выхаванцы летніка натхнёна чыталі вершы і хораша спявалі.

— Акцыя «Лета з добрай кнігай» мае галоўную мэту — далучыць дзяцей да чытання, — падзялілася ўражаннямі Таццяна Сівец. — Вельмі важна навучыць дзяцей любіць кніжкі з дзяцінства, яшчэ лепей, калі прыклад чытання паказваюць бацькі, настаўнікі. Упэўнена: каб нашыя дзеці раслі добрымі, разумнымі, цікаўнымі, сапраўднымі патрыётамі сваёй краіны, без добрай кнігі не абысціся.

**Галіна ГРЫЦКЕВІЧ**

# Знак сяброўства

Вечарына, арганізаваная кіраўніком народнага літаратурнага клуба г. Добруша «Натхненне» Людмілай Яськовай, сабрала не толькі творцаў з Гомельшчыны — сюды завіталі і госці з расійскага горада Навазыбкава.

Кіраўнік літаратурнага аб'яднання «Зыбчане» Канстанцін Папоў падарыў Добрушскай цэнтральнай бібліятэцы калектыўныя зборнікі. Працаўнікі гэтай суполкі Надзея Кажэўнікава і Уладзімір Вінаградскі прапанавалі новыя вершы. Пранікнёна чыталі свае творы члены Саюза пісьменнікаў Беларусі Ганна Атрошчанка, Вера Квяткоўская ды іншыя. Кранулі публіку і песні на словы мясцовых творцаў.

Кіраўнікі літаратурных аб'яднанняў запалілі сімвалічную свечку сяброўства.

**Ларыса СЯМЁНАВА**

# Дыялог з Італіяй

Днямі ў сталічным Музеі сучаснага выяўленчага мастацтва адбылася прэс-канферэнцыя, прысвечаная праекту «Голас культуры» маладзёжнага грамадскага аб'яднання «Азбука прадпрымальніцтва».

Праект рэалізуецца сумесна з грамадскім аб'яднаннем Affabulazione (Італія, Рым) і Музеем сучаснага выяўленчага мастацтва цягам двух гадоў. Яго мэта — устанаўленне грамадскага дыялогу ў сферы культуры праз разуменне беларускай самабытнасці, захаванне ды інтэграцыю нацыянальных звычаяў і традыцый у сучасным мастацтве з выкарыстаннем патэнцыялу творчых індустрый і лічбавых тэхналогій.

Паводле каардынатара праекта, кіраўніка аб'яднання «Азбука прадпрымальніцтва» Марыны Гаеўскай, удзельнікам будуць прапанаваны трэнінгі, майстар-класы, азнаямленчыя паездкі ў Рым, конкурс міні-праектаў у галіне культуры. У Мінску пройдзе фестываль маладзёжных эксперыментальных арт-праектаў з удзелам італьянскіх артыстаў, постфестывальная выстаўка ў Італіі. Будзе створана інтэрнэт-платформа «Голас культуры» з віртуальнай картай падарожніка і віртуальным музеем нацыянальных культур.

Affabulazione было створана ў 90-я гады мінулага стагоддзя як культурны цэнтр. Назва паходзіць ад аднайменнай п'есы італьянскага рэжысёра і пісьменніка Паола Пазаліні, забітага недалёка ад месца, дзе цяпер знаходзіцца аб'яднанне. Асноўны склад суполкі — артысты-валанцёры (прафесіяналы і аматары). Але сёння яна вядомая далёка за межамі Італіі як член міжнароднай сеткі маладзёжных арганізацый.

У прэс-канферэнцыі ўзялі ўдзел віцэ-прэзідэнт Affabulazione Нэнсі Наніні ды каардынатар праекта з італьянскага боку Паола Сакка.

**Яна ЯВІЧ**

# Брэсту прысвячаецца

Горад адзначае свае галоўнае свята — 995-годдзе з дня заснавання. Ужо заўтра жыхароў і гасцей чакае неверагодны дзень, напоўнены яркімі падзеямі і ўражаннямі.

Штогадовае свята кнігі «Бульвар, які чытае» падрыхтавала Брэсцкая гарадская цэнтралізаваная бібліятэчная сістэма. Сёлета кніжніцы прапаноўваюць берасцейцам і турыстам наведаць Брэст 1940-х гадоў мінулага стагоддзя. Адчуць дух і атмасферу тых часоў дапаможа выстаўка прадметаў інтэр'ера, рэдкіх кніжных выданняў з фондаў Брэсцкай абласной бібліятэкі і Брэсцкай гарадской ЦБС, часопісаў мод, фотаздымкаў з асабістых архіваў.

Новую кнігу «Выжыць на дарозе смерці» (успаміны людзей, якія ў дзяцінстве перажылі жахі вайны) прадставіць вядомая брэсцкая пісьменніца Зінаіда Дудзюк. Парад кніжных выставак, прысвечаных Брэсту, дапаможа перагарнуць старонкі шматвяковай гісторыі горада.

Эстафету абласной паэтычнай акцыі «Зноў памяці звіняць званы», прысвечанай 70-годдзю вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў, прымуць юныя чытачы гарадскіх бібліятэк. Паэтычны марафон «Майстры літаратурнага радка» збярэ на адкрытай пляцоўцы прафесіяналаў і аматараў мастацкага слова. Літаратурна-гульнявая праграма «Мы — берасцейцы!» запросіць усіх, хто спрабуе сябе ў творчасці выказаць пачуцці да роднага горада паэтычнымі радкамі.

**Міра ІЎКОВІЧ**

# Белы журавель надзеі

У межах юбілейнага праекта Бярэзінскай раённай бібліятэкі «70 патрыятычных спраў», прымеркаванага да 70-годдзя вызвалення Беларусі, на пачатку ліпеня для выхаванцаў раённага аздараўленчага лагера «Папараць-кветка» праводзіўся рэквіем-акцыя «Белы журавель памяці». Сімвалам памяці ахвяр вайны невыпадкова стаў белы журавель: паводле падання, у гэтых птушак ператвараюцца душы памерлых.

Тэатр аднаго акцёра Бярэзінскай цэнтральнай бібліятэкі прапанаваў пастаноўку «Мы смерці глядзелі ў твар» пра суровую праўду франтавога побыту. Прыкладам, салдацкі паёк уключаў кавалак чорнага хлеба, паўкацялка пярловага супу ды лыжку кашы.

Самымі ўражальнымі былі тэатралізаваныя споведзі-маналогі вязняў фашысцкіх канцлагераў і жанчын-франтавічак. Акцыя завяршылася запускам самаробных папяровых жураўлікаў — паводле японскай традыцыі, для здзяйснення мар. Юныя бярэзінцы загадалі, каб гады ліхалецця больш ніколі не паўтарыліся.

**Тамара КРУТАЛЕВІЧ,**
**загадчык аддзела маркетынгу**
**Бярэзінскай цэнтральнай бібліятэкі**

# «Пазнаць свой край»

Экскурсія пад такой назвай, арганізаваная па ініцыятыве стваральніка і першага рэжысёра Пяршайскага народнага тэатра, паэта, краязнаўцы Мікалая Ганчарыка, пазнаёміла з памятнымі мясцінамі Валожыншчыны. Да Мікалая Мікалаевіча далучыліся ўдзельнікі народнага літаратурна-мастацкага аб'яднання «Рунь» раённага Цэнтра культуры і былыя самадзейныя артысты тэатра, настаўнікі-пенсіянеры.

Пачалася вандроўка ў Янушкавічах: Данута Шаўлоўская распавяла пра лёс і трагедыю гэтай вёскі. Тут у вайну фашысты спалілі 76 чалавек, сярод якіх было 25 дзяцей. У жывых засталіся толькі 4 дзяўчынкі, Данута Вікенцьеўна — адна з іх.

У парку Перамогі вёскі Пяршаі ўсклалі кветкі да помніка 226 мірным жыхарам, спаленым і забітым фашыстамі, а таксама воінам, якія загінулі падчас вызвалення гэтай тэрыторыі. М. Ганчарык расказаў пра гісторыю пасёлішча. Каля касцёла пакланіліся магіле ксяндзоў-мучанікаў Германа і Ахілеса, якія загінулі, заступіўшыся за вяскоўцаў. Пачулі расповед і пра «партызанскую дарогу», у гонар якой усталяваны знак (пасёлак Першамайскі), і пра партызанскую школу, якая дзейнічала ў гады вайны ва ўрочышчы Цыганы.

Удзельнікі экскурсіі наведалі таксама Івянецкі музей традыцыйнай культуры. Не абмінулі і славутыя храмы — касцёлы Святога Міхаіла і Святога Аляксея, а таксама новую Свята-Еўфрасіннеўскую царкву. Наведалі мемарыяльны комплекс у в. Доры, дзе пахавана 257 мірных жыхароў, спаленых фашысцкімі карнікамі.

Пазнаёміліся і з мясцінамі, звязанымі з імёнамі вядомых літаратурных дзеячаў. У Раманах былая настаўніца Марыя Бобрык вельмі цікава распавяла пра дзіцячыя і школьныя гады беларускага празаіка Ядвігіна Ш., якому пашчасціла вучыцца ў школцы В. Дуніна-Марцінкевіча ў яго дачкі Камілы... А колькі яшчэ такіх памятных мясцін на Валожыншчыне, дзе абавязкова трэба пабываць!

**Валянціна РУСАКЕВІЧ,**
**кіраўнік народнага**
**літаратурна-мастацкага**
**аб'яднання «Рунь»**

# Памяці Паўла Саковіча



Здаецца, толькі ўчора ён заходзіў у рэдакцыю «ЛіМа» — прыносіў апавяданне з перажытага ў дзяцінстве, бо і сам быў з пакалення ваенных падранкаў, а значыць, зведаў і голад, і холад, і многія іншыя выпрабаванні таго цяжкага часу. Знешне такі ж, як і заўсёды: інтэлігентны, ветлівы, хоць у меру скрытны, але заўважна схуднелы, з нейкім глыбокім жалем у бялёсых вачах. І вось сумная вестка: 18 ліпеня не стала Паўла Саковіча, чалавека шчодрай душы, вядомага паэта і празаіка, грамадскага актывіста, вялікага сябра беларускіх дзяцей. Адразу зажурыўся гарачы і сонечны ліпень, атуліўся жалобай ягоны родны і самы любімы на свеце горад Орша, дзе на гэтую страту як быццам азваліся рэхам далёкія гудкі сёння ўжо забытых паравозаў.

Сын праслаўленага машыніста, дзіця і выхаванец чыгункі, Павел Саковіч тут, на «вузлавой» станцыі Орша нарадзіўся за два месяцы да пачатку вайны, потым жыў і выхоўваўся ў быццам у пасёлку чыгуначнікаў Орша-Заходняя. На ўсё жыццё ён запомніў жахі вайны, са слязамі на вачах апавядаў пра трагічную смерць сястрычкі Волечкі, якую фашысты застрэлілі за неасцярожна ўзяты ў іх рэвальвер. Была пасляваенная нішчымніца, усеагульная бяда і роспач. На мінах, захаваных у зямлі, гінулі лепшыя сябры і аднагодкі будучага пісьменніка. Аднак, нягледзячы на незагойныя шнары на сэрцы, падлетак стараўся добра вучыцца ў школе, пасляхова скончыў гістарычны факультэт БДУ. Далейшыя вяхі ягонай біяграфіі такія: служыў у войску, працаваў на заводзе, у рэдакцыях аршанскай «раёнкі» і сталічнай «Чырвонай змены», у партыйных камітэтах і Міністэрстве культуры, загадваў культурна-масавым аддзелам Белсаўпрофа, быў намеснікам старшыні Рэспубліканскага савета па турызме. Ужо ў даволі сталым узросце, у 1996 годзе, вярнуўся да журналісцкай і літаратурнай дзейнасці: быў загадчыкам аддзела часопіса «Полымя», потым перайшоў у «Вожык», дзе працаваў да пенсіі.

За гады творчай працы Павел Саковіч напісаў шмат кніжак прозы, паэзіі, сатыры і гумару, вершаў і празаічных твораў для дзяцей. Перажытае ў маленстве нечакана ў памяці і сэрцы паэта адгукнулася значнай па аб'ёме і арыгінальнай па змесце паэмай «Не моўкне рэха тых гудкоў...», якая асобным выданнем выйшла да 940-годдзя Оршы. Паэма прысвечана землякам-аршанцам, і ў першую чаргу — чыгуначнікам, партызанам, Герою Савецкага Саюза Канстанціну Заслонаву, а таксама бацьку — машыністу паравоза, шчыраму працаўніку, чуламу і спагадліваму чалавеку. Тэма чыгункі заўжды хвалявала і натхняла пісьменніка. Ён жа і свой празаічны твор — апавяданне «Бацькаўшчына», які стаў пераможцам літаратурнага конкурсу, упершыню надрукаваў у прафесійнай, вельмі папулярнай тады газеце чыгуначнікаў «Гудок». Што для адзначанай вышэй паэмы, то ў вобразе бацькі асобнымі рысамі характару, міласэрнымі ўчынкамі пазнаецца легендарны Андрэй Лятун з аднайменнага апавядання Міхася Лынькова — непапраўны рамантык і аптыміст, чалавек моцнай сілы волі. Такім у дзяцінстве марыў стаць і Павел Саковіч, але вучыцца на машыніста лакаматыва яму не выпала: ён стаў добрым пісьменнікам.

Паэт любіў сваю чыгуначную станцыю Орша, ганарыўся тым, што гэты славуты край апявалі Янка Купала, Міхась Лынькоў, Уладзімір Караткевіч, Янка Сіпакоў. Нямала цікавых мастацкіх твораў прысвяціў землякам-аршанцам і сам Павел Саковіч. Яго добра ведалі і заўсёды шчыра запрашалі на вечарыны настаўнікі і вучні мясцовых школ, работнікі культуры, супрацоўнікі аршанскіх бібліятэк, клубаў, музея Уладзіміра Караткевіча. Тут часта адбываліся сустрэчы з чытачамі то сам-насам, то калектыўна.

Сёння ж, калі слынны пісьменнік пайшоў з жыцця, журыцца гарачы ліпень, смуткуе знакамітая Орша, дзе будзе захаваны побач з бацькамі прах творцы. Сваё апавяданне «Скулон», прысвечанае шчымлівым падзеям далёкіх пасляваенных часін, шаноўны Павел Паўлавіч марыў пабачыць у «ЛіМе», але не паспеў: тая, што з іржавай касой, на жаль, не ведае ні літасці, ні спагады.

**Віктар ГАРДЗЕЙ**

Саюз пісьменнікаў Беларусі і Мінскае гарадское аддзяленне СПБ глыбока смуткуюць з прычыны смерці пісьменніка Паўла Паўлавіча САКОВІЧА і выказваюць шчырыя спачуванні яго родным і блізкім.

РВУ «Выдавецкі дом «Звязда» выказвае шчырыя спачуванні родным і блізкім пісьменніка Паўла Паўлавіча САКОВІЧА, які шмат гадоў плённа працаваў у часопісе «Вожык», з прычыны яго смерці.

Калектыў Аршанскай цэнтралізаванай бібліятэчнай сістэмы глыбока смуткуе ў сувязі са смерцю выбітнага земляка, пісьменніка Паўла Паўлавіча САКОВІЧА. Выказваем спачуванне родным, калегам і сябрам. Разам з вамі падзяляем гэтую вялікую страту.

# Горкая страта



**17 ліпеня 2014 года Беларускі рэспубліканскі тэатр юнага гледача напаткала вялікая і горкая страта: пайшоў з жыцця артыст, вядучы майстар сцэны Андрэй Кізіно. Пайшоў ва ўзросце 42-х гадоў — у чалавечым і прафесійным росквіце.**

Шырокаму гледачу артыст Андрэй Кізіно вядомы па кінаролях у мастацкіх фільмах («Следчы», «Я тебя боготворю») і тэлевізійных серыялах «Каменская», «Закон», «Неба і зямля», «Снайпер». Маленькія гледачы нашага тэатра любілі ягоных усмешлівых Зайцоў («Нельга нам без сябра», «Парася, якое спявае»), Прынца-філосафа і няўрымслівага прасцяка Жака («Сястра мая Русалачка» і «Кот у ботах»); больш сталая аўдыторыя шчыра вітала зайздросніка Петэра («Петэр Мунк і яго каменнае сэрца»), закаханага Генрыха («Голы кароль»), нуварыша спадара Журдэна («Мешчанін у шляхецтве»), хітруна Ігара Мікалаевіча («Аднакласнікі»), палясоўшчыка Тараса («Тарас на Парнасе»), — яны зрабіліся самымі вядомымі тэатральнымі героямі артыста.

З 1993 года Андрэй Кізіно абраў ролі, якія ў літаральным сэнсе дапамагалі дзецям жыць і змагацца — у Рэспубліканскім дзіцячым анкалагічным цэнтры ён увасобіў вобразы Клоўна Надзеі і Доктара Антошы.

**Калектыў тэатра**

Ала КЛЕМЯНОК



## Да Язэпа Драздовіча

*Зоры не на небе, зоры ў сэрцы.*
*Сонца не ў Сусвеце, а ў душы!*
*Што ж ты не знаходзіш сабе месца?*
*Хопіць валатоўкі варушыць!*
*Ты вандроўнік з іншых вымярэнняў?*
*Ці згубіўся ў часе на Зямлі?*
*Адзіноты сумныя імгненні*
*на палотнах кветкамі ўзышлі.*
*Намалюй мне дыванок адметны*
*без звяроў, без птушак, без раслін,*
*зоркі невядомай, непрыкметнай*
*далягляд, як вечнасці ўспамін.*
*Падары мне мару-абяцанку*
*аб шчаслівай долі дзесьці там,*
*дзе чакае хтосьці мяне на ганку,*
*хоць яму не слала тэлеграм.*
*Хтосьці не зразумеў. Я зразумею*
*ўсе твае фантазіі і сны,*
*Бо сама даўно лятаць умею*
*на планеты вечнае вясны.*
*Толькі размінаюся бясконца*
*я з табой, а можа і з сабой…*
*У тваёй душы палае сонца,*
*кліча, кліча ў вечнасць за сабой.*

## Мары пра Парыж

***«Есць на свеце поважней дела***
***страстных бурь и подвигов***
***любовных».***

***Марына Цвятаева***

*Не хачу быць навязлівай*
*ні з дабром, ні з любоўю,*
*не хачу, каб абразліва*
*паглядаў ты з-падброўя,*
*і таму права выбару*
*я табе пакідаю,*
*слёзы радасцю выпару,*
*і Парыж прыгадаю…*
*Над Мармартрам узнёслыя*
*Сакрэ-Кёр вежы-крылы,*
*пад начнымі нябёсамі*
*Сена быццам з акрылу,*
*вежы Эйфеля ўразлівасць,*
*ціхіх скавераў ратонды,*
*і пагляд ненавязлівы,*
*але пільны Джаконды.*
*Я маўчанню вучылася*
*каля сцен «Нашай Дамы»,*
*мая гордасць скарылася*
*побач з вобразам Жанны.*
*Годзе жыць птушкай раненай!*
*Маю ж цэлыя крылы,*
*я не буду навязлівай,*
*А ты будзеш, мой мілы?*

***

*Я навучылася развітвацца без слёз,*
*неназаляць прысутнасцю залішняй,*
*не папаўняць расчараванняў стос*
*вузельчыкамі памяці ўвішнай.*
*Умею абяцанняў не даваць*
*таму, хто ад мяне іх не чакае,*
*умею даравацъ і забываць,*
*і адпускаць таго, хто адлятае.*
*Жыццё даецца кожнаму, каб жыць,*
*ахвяраваць сабой — то варта жалю.*
*Чаму ж на вейках у мяне дрыжыць*
*сляза цяжкая, быццам бы са сталі?..*

## Усход сонца ў Алушце

*За вяршыню Дзімерджы,*
*быццам вэлюм, хмарка белая*
*зачапілася, дрыжыць;*
*не пускаюць яе, смелую,*
*у марскую далячынь*
*гмахі-горы, скалы-ветразі,*
*быццам кажуць ёй: «Астынь!*
*Заставайся тут, на беразе».*
*А яна імкнецца плыць*
*у прасторы бірузовыя,*
*і праз вэлюм два крылы*
*праразаюцца пунсовыя.*

Васіль РАГАЎЦОЎ



## Колер жыцця — зялёны

**Светлай памяці прафесара Фамы Бельскага**

***

*Людзі —*
*што дарогі:*
*то сыходзяцца,*
*то разыходзяцца…*
*А часам і сустракаюцца…*
*у тупіку.*

***

*Адны блукаюць*
*у поцемках,*
*а другія —*
*і пры святле,*
*якое засціць ім вочы.*

***

*Багатым*
*часам зайздросцяць,*
*бедным —*
*спачуваюць…*
*А простых людзей*
*звычайна не заўважаюць.*

***

*Жоўты колер —*
*знак здрады,*
*чорны — бяды…*
*А зялёны — жыцця.*
*За якое часам*
*даводзіцца плаціць*
*здрадаю,*
*а то і ахвяраваць*
*самім жыццём.*

***

*Адны заходзяць*
*у шыкоўную краму,*
*нібыта ў музей.*
*Другія —*
*купіць,*
*чаго душа пажадае.*
*А ёсць,*
*што жывуць*
*з людской міласціны.*
*І моляцца*
*за бедных, багатых…*
*І такіх, як самі.*

***

*«Што трэба чалавеку,*
*каб быў шчаслівы?» —*
*спыталіся ў мудраца.*
*І той усміхнуўся:*
*«Шчасце».*

***

*Час*
*не стаіць на месцы.*
*Спыняецца толькі*
*гадзіннік.*

***

*Паказная слава —*
*прыжыццёвая,*
*а велічная —*
*вечная.*

***

*Як гукнеш,*
*так і адгукнецца…*
*Згадалася бацькава:*
*«Добра гукаюць,*
*ды кепска чуюць».*

***

*Чым болей пазнаю*
*людзей,*
*тым больш губляюся*
*ў жыцці.*

***

*Ад сціпласці не паміраюць.*
*Але і даўжэй не жывуць.*



*Фота Кастуся Дробава*

Леў ПАРЭМСКІ



## Акіянія

*Не бачыў акіяна я,*
*А дзесьці ёсць на ім*
*Краіна Акіянія*
*Пад сонцам залатым.*

*Там людзі ўсе пагляднья*
*Аблічам і душой.*
*І акіян прынаднаю*
*Там вее цеплынёй.*

*На астравах каралавых*
*Лагун блакіт і гладзь.*
*І пальмы апахаламі*
*Над берагам вісяць.*

*Чароўнасцю спавітае*
*(Гагенаўскіх таноў)*
*Усё там сакавітае*
*Ад фарбаў да пладоў.*

*Цячэ там асалоднае*
*Без шэрых дзён-турбот*
*Наіўнае, свабоднае*
*Жыццё на ўлонні вод.*

*Не бачыў акіяна я —*
*Што ж, думкай палячу —*
*Краінай Акіяніяй*
*Самоту палячу.*

## Пра Роберта Бёрнса

*Што крамніку нядоля*

*Паэта-бедака!*
*Свайго багацця долю*
*Бярэ не спатайка.*

*А ведае — ў паэта*
*Ні шылінга няма:*
*«Не знойдзе — дык за гэта*
*Адно яму — турма».*

*Не дасць яму памерці*
*Спакойна грашалоў —*
*За дзесяць дзён да смерці —*
*Судовы іск за доўг.*

*Няшмат пажыў ён славай,*
*А мроі — злы падман...*
*І ўладна горшыць ява*
*Перадсмяротны стан.*

*Нядоля ты, нядоля —*
*Жыцця яго прыпеў...*
*Ён сэрца не спатоліў*
*І ў вершах — не паспеў.*

***

*Мой лёс, ты мне пакуты насылай,*
*Мне даспадобы сэрца гартаванне,*
*Павек не пасляй у ім адчай,*
*Заўжды скіроўвай да выпрабавання!*

*Хаця я ўжо даўно не малады,*
*Мне даспадобы мысліць праз пакуты...*
*Дык не прыспешвай ты мае гады,*
*Яшчэ я, згледзь, нядоляй не сагнуты!*

Павел САКОВІЧ

# СКУЛОН

*Апавяданне*



Класы нашай школы былі няпоўныя, але ў кожным — па два-тры перарасткі. З тых, хто пабываў з бацькамі ў акупацыі і, дасягнуўшы школьнага ўзросту, прапусціў некалькі год. Не ведаю чаму, але перарасткі былі ў асноўным хлапчукі. На перапынках яны трымаліся асобнымі гуртамі, курылі, нас, малявак, амаль не чапалі. Ім з намі было нецікава. А вось іхняя «дыспуты» з настаўнікамі часта ратавалі ад двоек тых, хто не выканаў хатнія заданні. Бывала, канфлікты настолькі абвастраліся, што, напрыклад, у гісторыка цярпенне лопалася і ён загадваў нейкаму «бейбусу» выйсці з класа. Той адмаўляўся і літаральна «ўпарціўся» — чапляўся за парту, а настаўнік з усіх сіл выцягваў яго, каб выпхнуць за дзверы. Мы сядзелі прыціхлыя, апусціўшы галовы, але ў душы радаваліся, што, дзякуючы гэтай валтузні, палова ўрока будзе сарвана. Большасць мянушак для настаўнікаў прыдумвалі перарасткі. Некаторыя мянушкі здаваліся трохі грубымі, але трапнымі. Так, выкладчыка рускай мовы і літаратуры чамусьці празвалі Барыгам. Можа, з-за таго, што звалі яго Барысам Пятровічам? Але тут не ўсё так проста. На першы погляд, ён быў самы інтэлігентны з мужчын-настаўнікаў. Заўсёды гладка прычасаны, у касцюме, пры гальштуку, з вялікай насоўкай у грудной кішэні. Заходзячы ў клас, Барыга перш-наперш правяраў чысціню стала і табурэта, выціраў на іх падазроныя плямы. А яшчэ быў у яго залаты зуб, на які ён перыядычна прысмоктваў. Прадметы свае ведаў даволі добра, аднак не вельмі прымушаў старацца. І гэта задавальняла нас, асабліва перарасткаў. Аднак яны ведалі пра настаўніка значна больш, чым мы. Аказваецца, Барыс Пятровіч паціху выпіваў. З тае прычыны, што быў закаханы ў выкладчыцу беларускай мовы і літаратуры — сінявокую пышнацелую бландзінку. Відаць, безнадзейна, бо яна была замужам. Шчыра кажучы, заглядваліся на яе як перарасткі, так і мы, «саплівыя» падлеткі. Дарэчы, у гэтай прыгажуні мянушкі чамусьці не было…

Быў у нас і свой Конь. Нават два кані. Адзін, школьны, — сівы мерын Кол. У маладосці яго называлі нармальным конскім імем, а як трапіў у школу, яму таксама далі мянушку — Кол. Калі б гэта была кабыла, яе, магчыма, называлі б Двойкай. А наш другі конь, канешне, у двукоссі, гэта выкладчык чарчэння і малявання Конеў. Нехта проста «скараціў» яго прозвішча.

Хто з перарасткаў быў найбольш здатны на прыдумкі мянушак? Мне здаецца, што гэта Міхась Каляда. Цыбаты, вяртлявы, з кароткім чубам «пад бокс», у курточцы-талстоўцы і пляскатай кепачцы, ён выглядаў неяк прыблатнёна і крыху гумарыстычна. Ягоныя «хохмачкі», якія часам слаба разумелі, вельмі раздражнялі настаўнікаў. Сам ён вучыўся праз пень-калоду, па два гады сядзеў у чацвёртым і пятым класе, а нас на перапынку іншы раз павучаў:

— Пацаны, вучыцеся добра, бо ў каго мы тады спісваць будзем? На нас не глядзіце. Мы — пакаленне прапашчае. Жыццё наша вайна паламала. Вось мяне яшчэ год-два і забяруць нас у «фабзайцы». Можа, там чаму-небудзь навучаць.

Гэта была бравада. Горкая бравада. І так нешматлікае пакаленне падранкаў вайны штомесяц дзясяткамі, сотнямі гінула на мінах, падрывалася на знойдзеных гранатах і снарадах, калечылася рознай іншай зброяй. Кожнае лета ў нашым горадзе гінула па некалькі падлеткаў. Як правіла, гэта былі бязбацькавічы, якім не хапала цвёрдай мужчынскай рукі. У Міхася таксама бацька загінуў на вайне. І ён з вясны, калі адтайвала зямля, разам з хаўруснікамі пачынаў шукаць на месцы былых ваенных складоў, дзе стаяў фронт, розныя небяспечныя «скарбы».

Аднойчы Міхась прынёс у сумцы цэлыя прыгаршчы патронаў. На ўроку фізікі ён пачаў перабіраць іх, паказваць суседу па парце. Раптам некалькі патронаў выслізнулі з Міхасёвых рук, упалі на падлогу і пакаціліся па праходзе. Выкладчык, Іван Рыгоравіч, былы франтавік, адразу падскочыў да Каляды, вытрас з сумкі патроны і разам з самапалам «канфіскаваў».

— Ты што, звар'яцеў? — крычаў ён на Міхася. — Хочаш пакалечыць сябе і таварышаў? Прызнавайся, дзе ўзяў патроны?

Панурыўшы галаву, Міхась шморгаў носам і зацята маўчаў.

— Прызнавайся, а то горш будзе. Зараз выклічу міліцыю, — настойваў фізік.

Падлетак маўчаў, перастунаючыся з нагі на нагу. Цярпенне настаўніка лопнула. Ён схапіў Міхася за рукаво і стаў цягнуць да дзвярэй.

— Не хочаш па-добраму — пайшлі да дырэктара. Зараз пазванім і выклічам з работы маці. Можа, яна ведае, адкуль у цябе гэта?

Міхась заўпарціўся яшчэ больш. Ён учапіўся за парту, злосна глянуў з-пад ілба на выкладчыка:

— Не трэба маці. У яе сэрца хворае. А ты… — ён быццам спатыкнуўся аб гэтае «ты» і крыху сумеўся, каўтануў камяк у горле. — А ты… — паўтарыў ён. — Табе, канешне, не шкада маёй маці. Ты больш нямецкіх мацярок шкадаваў. І дзетак іхніх. А немцы тут нас…

Міхась раптам затросся, заплакаў, вырваўся з рук настаўніка і пабег да дзвярэй. Перш чым ляпнуць імі, ён абярнуўся і глуха працадзіў скрозь зубы:

— У-у, Скулон няшчасны…

Гэта было так нечакана, што ўсе вучні знямелі, застылі на месцах. Разгублены, на нейкі момант аслупянеў і фізік. Моўчкі, стомленымі, ціхімі крокамі ён наблізіўся да свайго месца і сеў.

Некалькі хвілін сядзеў у здранцвенні. Дык вось якая ў яго мянушка… Скулон… Зараз яму гэта чамусьці не здалося крыўдным. Так, грубавата, але справядліва. Хаця яго параніла і ў нагу, але тое раненне не бачна, а гэта — навідавоку. Яму вырвала частку шчакі, раздрабіла сківіцу. У шпіталі доўга валтузіліся, усё ж зашылі, аднак шчаку перакасіла, на ёй засталіся сінія рубцы і ўпадзіна. Ён амаль не глядзеўся ў люстэрка, а на ўроку стараўся стаяць да вучняў бокам, хаваючы параненую шчаку.

Аднак… чаму ўсё ж не проста «Скула», а — «Скулон»? І тут да яго, выкладчыка фізікі, нарэшце дайшло. Гэта ж спалучэнне двух слоў: «скула» і «кулон», дзе кулон — не жаночае ўпрыгожанне, а адзінка колькасці электрычнасці, якую часта згадвалі на ўроках. Нічога не скажаш, трапна…

Не, зусім не мянушка балюча разанула ягоны слых. «Ты больш нямецкіх мяцярок шкадаваў. І дзетак іхніх. А немцы нас…» Гэта ён са зла гэтак сказаў, ад рэўнасці. А на самай справе ўсё не так было. Зусім не так…

Адбылося гэта ў канцы вайны. Іхні артдывізіён праз раку вёў агонь па нямецкім гарадку, які чамусьці ўпарта абараняла нейкая эсэсаўская часць. Горад пакідалі жанчыны, дзеці, старыя. Некаторыя садзіліся ў лодкі і плылі па рацэ ўніз. Іван заўважыў, што адну лодку нясе цячэннем да іх берага. У ёй сядзелі жанчына і хлопчык, а таксама быў нейкі скарб. Ад няўмелага веславання лодка круцілася, плыла то бокам, то кармой наперад. Убачыўшы нашых салдат, жанчына запанікавала, лодка зачэрпнула вады і хутка пайшла на дно. Жанчыну панесла плынню далей, а хлопчык з усіх сіл пачаў грэбці да нашага берага. Ён заўважыў Івана, біў нагамі, рукамі па вадзе і не зводзіў з яго вачэй. Хлопчык не крычаў, толькі з мальбой глядзеў на яго, чужога салдата.

Іван адразу ўспомніў свайго Міколку. Ён быў так падобны на гэтага немчыка: такі ж бялявы, гадоў сямі, з празрыста-сінімі вачыма... Івану так і не ўдалося да канца высветліць лёс жонкі і сына, якія заставаліся на акупіраванай тэрыторыі. Калі ён праходзіў са сваёй батарэяй праз вызваленую Беларусь, яму стала вядома, што іх пагналі ў Германію ці то на работу, ці то ў лагер... І вось у ім зараз нібы ўзарваўся бацькоўскі інстынкт. А што калі?.. Хлопчык жа не крычаў ні па-руску, ні па-нямецку... У той момант Іван зусім не думаў пра жанчыну, якую па быстры панесла далей. Галоўнае — хлапчанё. Яно так падобнае на Міколку! Не раздумваючы, ён у чым быў кінуўся ў рэчку, крыкнуўшы камандзіру: «Я зараз!» Іван бачыў перад сабой толькі вочы хлопчыка. Сем—дзесяць рыўкоў — і ён схопіць яго за руку. Аднак рыўкі чамусьці былі слабыя, бездапаможныя. Толькі цяпер Іван вельмі пашкадаваў, што да вайны так і не навучыўся добра плаваць... Ён заўважыў толькі, як міма праплыла бялявая галоўка. Хлопчык ужо выбіўся з сіл, ды і сам Іван паддаўся плыні, у вушах зазвінела, ногі зрабіліся ватнымі і цягнулі на дно...

Яго выратавалі свае. Хлопчыка выцягнуць не паспелі: знік пад вадой... Вайсковы асабіст ледзь не прышыў тады яму «справу». Чаму без дазволу камандзіра пакінуў батарэю? Навошта паплыў у напрамку варожага берага? Гэтых «чаму» і «навошта» было столькі, што ён заблытаўся ў адказах і ледзь не пайшоў пад трыбунал. Выратавалі яго баявая ўзнагарода — медаль «За адвагу» і вось гэта раненне, якое ён атрымаў праз дзень.

Пасля шпіталя камісавалі. Іван вярнуўся ў свой горад, аднавіў пошукі жонкі з сынам, але пакуль — безвынікова. Да вайны ён паспеў скончыць тры курсы педінстытута і яго ўзялі выкладчыкам фізікі ў гэту школу.

Іван Рыгоравіч раптам ачуўся ад успамінаў. Ён па-ранейшаму сядзеў за настаўніцкім сталом, адзін у пустым класе. Якраз была вялікая перамена, і перапалоханыя вучні пакінулі яго аднаго. Ён устаў, забраў класны журнал, указку і накіраваўся да выхаду. Зла на Каляду ў яго не было. Настаўнік рашыў нічога не казаць дырэктару, а пагаварыць з Міхасём яшчэ раз. А заадно расказаць яму ўсю праўду і пра сябе... Размова, аднак, адкладвалася, бо пачалася вясна, набліжаўся канец навучальнага года.

Наступны пасля інцыдэнта занятак па фізіцы Міхась прапусціў: думаў, што настаўнік прагоніць з урока. Аднак ніхто нікуды яго не выклікаў, не загадваў прывесці маці, і ён падумаў, што ўсё абышлося.

Іван Рыгоравіч, у сваю чаргу, не хацеў, каб фізіка «тармазнула» хлопца пры пераходзе ў наступны клас. Неяк пасля ўрока ён падазваў Міхася і папярэдзіў:

— У наступны раз я выклічу цябе да дошкі. Падрыхтуйся.

Аднак наступнага разу не адбылося... Міхасю было няёмка перад Скулонам, што той хацеў дапамагчы яму, а ён не вывучыў заданне. Лепш прапусціць гэты ўрок, а ў наступны раз прыйсці падрыхтаваным.

Калі даводзілася прагульваць урокі, мы звычайна туляліся паза вугламі школы, перабягалі, як зайцы, з месца на месца, баяліся трапіць на вочы настаўнікам. Інакш паводзілі сябе перарасткі. Яны разгульвалі па двары, курылі, і ніхто да іх не чапляўся, акрамя завуча і дырэктара. Часцяком яны круціліся вакол зенітнай гарматы, якая засталася з вайны. Казалі, што тут, у цэнтры чыгуначнага вузла, стаяла нямецкая батарэя, а ў школе была казарма зенітчыкаў. Пасля вайны вайскоўцы некалькі гармат вывезлі, а гэта чамусьці засталася. З задранай доўгай дзюбай-ствалом, адкатнікам, падобным на тарпеду, з многімі, яшчэ не знятымі прыстасаваннямі, гармата выглядала каля двухпавярховай школы нейкім монстрам, жалезным дыназаўрам. Вакол яе паставілі агароджу з дроту, пад якую можна было лёгка пралезці. Дзяцей, асабліва перарасткаў, цягнула да гарматы, нібы магнітам. Міхась таксама рашыў правесці свой «вольны» час каля зеніткі. На яе шэра-зялёным фоне хударлявая хлапечая фігурка была амаль непрыкметнай. Каляда, здаецца, хацеў нешта адкруціць, выцягнуць, стукаў па нейкіх частках нагамі, узяў для нечага камень...

У гэты час на першым паверсе, у пятым «А» Іван Рыгоравіч праводзіў урок. Спачатку праверыў па журнале прысутных. На прозвішча «Каляда» ніхто не адгукнуўся. «Відаць, не вывучыў, пабаяўся», — расчаравана падумаў настаўнік. Апытаўшы па хатняму заданню некалькі чалавек, ён пачаў тлумачыць новую тэму, і тут заўважыў, што некаторыя вучні пераміргваюцца, перашэптваюцца, пазіраючы зрэдку на школьны двор. Іван Рыгоравіч непрыкметна наблізіўся да акна. Двор быў амаль пусты, толькі на спартыўнай пляцоўцы фізрук ставіў у шарэнгу чарговую групу для заняткаў. На прывычным месцы стаяла зенітка. Па ёй лазілі, поўзалі дзеці, часам зрываліся, падалі, атрымлівалі траўмы. Вось і зараз каля зараднага прыстасавання корпаўся нейкі хлопчык. Настаўнік прыглядзеўся... Гэта быў Міхась Каляда.

Іван Рыгоравіч хацеў паклікаць яго ў клас, каб ён праслухаў новы матэрыял і паспрабаваў адчыніць акно, аднак яно яшчэ з зімы было заклеена папяровай стужкай. Абапёршыся на падаконнік, настаўнік з трывогай назіраў, што робіць Міхась. Там, дзе было адкатнае прыстасаванне, хлопчык стараўся нешта адкруціць і біў па ржаваму металу каменем.

— Стой, што ты робіш! Не чапай! — раптам крыкнуў настаўнік і рвануў за ручку адну з рам. Акно не адчынілася. Ён паспрабаваў нешта крыкнуць у адчыненую фортку, але яна была высока, ледзь не пад самай столлю. Настаўнік махнуў рукой і пабег да выхаду, строга загадаўшы дзецям: «Усім заставацца ў класе!» Калі ён, ляснуўшы дзвярыма, выбег, вучні кінуліся да вокнаў. Чаго так устрывожыўся Скулон? Якая небяспека можа сыходзіць ад старой, няспраўнай гарматы? Прыліпнуўшы да акна, яны з нецярпеннем чакалі, што будзе далей...

А ў гэтыя хвіліны Міхась засяроджана валтузіўся з прыстасаваннем, якое даўно яго зацікавіла. Знешне яно нагадвала тарпеду або запячатаны ў жалезны пенал запасны снарад. Канешне, ніякі снарад тут не мог застацца — вайскоўцы абавязкова б забралі. А што тады там ёсць? Цікаўнасць разбірала Міхася ўсё больш. Адну ржавую гайку хлапчук ужо адкруціў. Ударамі нагі ён аслабіў нейкі рычаг, адкруціў на каўпаку пару гаек паменей. Міхась заўважыў, што каўпак пачаў пакрысе адыходзіць, у сярэдзіне нешта скрыгатнула і зварухнулася. Хлопчык не бачыў, як на ганку школы з'явіўся настаўнік — ён толькі пачуў яго рэзкі вокрык:

— Каляда! Зараз жа злазь!

«Высачыў-такі мяне Скулон, — незадаволена падумаў Міхась, — зараз на ўрок пагоніць, паставіць двойку...» Ён зрабіў выгляд, што не чуе настаўніка. «Во напалохаў, — у думках адказваў яму Міхась. — Ну, стаў хоць кол, а ў клас я не пайду. Хочаш мяне перад маляўкамі дурнем выставіць?» Ён, аднак, быў больш расчараваны, чым злы. Яму здавалася, што фізік зразумеў яго і хоча шчыра падтрымаць. А на самай справе? Эх, пальнуць бы з гарматы. Каб пачулася рэха. І тут, у школе, і ўсюды-ўсюды...

Ад школы да зеніткі было нейкіх паўсотні метраў, якія здаліся настаўніку марафонскім маршкідком. Ягоны вокрык Каляда не пачуў, а хутчэй за ўсё праігнараваў. Заставалася адно — апярэдзіць Міхася. «Паспець, паспець, паспець!» — тахкала ў такт бегу не вельмі здаровае сэрца. Кожны крок аддаваўся вострым болем у параненай назе, але ён не звяртаў на гэта ўвагі. Непакоіла толькі адно: абы нага не падвярнулася. Калі ўпадзе — яму не паспець, не выратаваць хлопца. Ён не зводзіў з Міхася вачэй, нібы трымаў на прыцэле.

Настаўнік паспеў. У апошнім рыўку ён адштурхнуў Каляду ад гарматы. Нічога не разумеючы, Міхась упаў спінай на зямлю і ў той жа момант, на яго вачах, спружына таўшчынёй з палена вылецела з-пад ствала і ўдарыла Скулона ў грудзі...

Ашаломлены Міхась не паспеў зварухнуцца, як з ім побач, нібы вельмі стаміўшыся, са стогнам упаў настаўнік. Дакрануўшыся да хлапечай рукі, — як бы правяраючы, ці жывы, — ён паглядзеў у блакітную бездань неба і глухім, аслабелым голасам прашаптаў:

— Дзякуй Богу, уратаваў. — І, як бы адказваючы Міхасю на яго папрок, ледзь чутна дадаў: — Чужых дзяцей не бывае... сынок.

# Не абмінуць!

Шосты нумар «Полымя» зацікавіць чытача як празаічнымі публікацыямі, так і непублікаванымі раней лістамі і творамі класікаў беларускай літаратуры. Чатыры навелы Віктара Карамазава распавядаюць пра таленавітых людзей: «Што нас яднае» — успамін пра размову з Я. Брылём, «Сэрца рыцара, вока снайпера» — развагі над дзённікавымі запісамі сябра-мастака Яўгена Красоўскага, якія шчодра цытуюцца і багатыя на добрыя думкі: «Толькі вопытны мастак бачыць глыбінную красу жыцця, прыроды, чалавека, іх малюнак, формы, фарбы ў еднасці. Гэтае бачанне і ёсць багацце, шчасце мастака. <…> Таму ён годны, шчодры і шчаслівы нават калі голы і галодны». Талент мадагаскарскага рыкшы Ману — шчодрасць, добразычлівасць і багацце душы. А расповед пра гомельскага мастака Сяргея Каўроўскага, які сябраваў з У. Маякоўскім, — напамін пра зменлівасць лёсу, хуткаплыннасць часу і вольную творчую атмасферу 20-х гадоў мінулага стагоддзя.

Апавяданні Ганны Навасельцавай выхопліваюць чытача з сучаснасці і пераносяць у свет паданняў, замоваў і казак, дзе магчыма іншае самаадчуванне, іншыя стасункі між людзьмі, чалавекам і прыродай. Галоўныя героі — пераважна міфалагічныя істоты, бостваы старажытных славян, легендарныя персанажы — маюць незвычайнае паходжанне і надзелены ці чарадзейнымі здольнасцямі, ці вялікай сілай. Часопісныя публікацыі Г. Навасельцавай чытаць даводзіцца даволі часта. Адмысловы аўтар піша для адмысловага чытача і робіць гэта выдатна, але праблема беларускай літаратуры ў тым, што адмысловых чытачоў патэнцыйна няшмат. Пісьменніца ўжо вызначылася з жанрам, стылем, тэматыкай, і каб творчасць не рабілася аднастайнай, у гэтым трыадзінстве варта часам штосьці змяняць. Бо многія моманты ў новых апавяданнях ужо знаёмыя па папярэдніх творах: герой аддае




перавагу чарадзейству над каханнем, сутнасць персанажа раскрываецца праз мінулае ці пазамінулае, адной з дзеючых сіл робіцца сукупнасць міфічных істот. Магчыма, калі-небудзь аўтарка звернецца і да гістарычных падзей, знойдзе новага, незвычайнага героя беларускага мінулага. Калі ж набліжацца да сучаснасці, то прыкладна ў гэтым рэчышчы працуе А. Казлоў.

У часопісе прадстаўлены вершы У. Скарынкіна, А. Салтука, Т. Сівец, а яшчэ рэцэнзія на новую кнігу гэтай пісьменніцы «Самы лепшы падарунак». Артыкул С. Андраюка прысвечаны В. Бечыку: побач з цытатамі, якія прэзентуюць кнігу «Радкі і жыццё», аўтар згадвае сяброўскія стасункі з вядомым крытыкам. Было б выдатна, каб асабістыя ўспаміны пераважалі над кніжнымі вытрымкамі, каб пісьменнікі, даследчыкі, мовазнаўцы паўставалі не толькі як аўтары, але і як адмысловыя людзі са сваім характарам і ладам жыцця. Зрэшты, пра літаратара галоўным чынам распавядаюць яго ўласныя тэксты — і ў новым «Полымі» ўпершыню апублікаваны лісты В. Быкава, адрасаваныя беларускаму рэжысёру Ігару Дабралюбаву. Кароткая перапіска актуалізуе праблему экранізацыі і публікацыі аповесці «Сотнікаў» — але пісаў Быкаў лаканічна, з эківокамі і недамоўкамі. Лісты ж Я. Коласа, вытрымкі з якіх прыводзіць З. Камароўская, — адкрыты расповед пра сябе, свой настрой і самаадчуванне. Адрасаваныя Аляксандры Каліне, яны датуюцца апошнім годам жыцця пісьменніка, і ўражвае, наколькі спакойна і бясстрашна Колас дзеліцца прадчуваннямі блізкага скону: «Невесёлые мысли, но они логически вытекают из природы нашего бытия…».

У часопісе змешчана і некалькі дзясяткаў невядомых вершаў Я. Янішчыц, якім папярэднічае выдатная прадмова С. Калядкінай. Даследчыца звярнула ўвагу на стаўленне да творчасці паэткі крытыкаў 60 — 70-х гадоў — галоўным чынам Р. Бярозкіна, які быў і ўкладальнікам першага зборніка Янішчыц. Наколькі паўплывалі яго катэгарычныя парады на творчае сталенне паэткі, ці вартыя былі адкладзеныя рэдактарам вершы старонак у «Снежных грамніцах», — гэта спрабуе вызначыць літаратуразнаўца.

Варта адзначыць і артыкул П. Кушына «Гецькі» (1843) — адзін з першых надрукаваных твораў, які адлюстроўвае беларускую рэчаіснасць, — у перакладзе, з прадмовай і каментарыямі А. Вашчанкі. «Гецькі» выклікалі пераважна негатыўныя водгукі, у тым ліку ад Р. Падбярэскага, — але публікацыя гэтага «практычна недаступнага» тэксту атрымалася безумоўна цікавай. Больш за тэкстаў новага «Полымя» немагчыма абмінуць.

**Алеся ЛАПІЦКАЯ**

# Чым здзіўляе «Нёман»?




Кожны раз па прачытанні нумара літаратурнага часопіса ўзнікае шмат меркаванняў і пачуццяў. Пры гэтым, кажучы пра апошнія, заўжды знаходзіцца адно дамінуючае, у якім заключаецца агульнае ўражанне ад працы рэдакцыі і зместу нумара: захапленне, расчараванне, узрушанасць… Гэтым разам (гаворка ідзе пра № 6 часопіса «Нёман») дамінуе здзіўленне.

Па-першае, паэзія саступіла месца прозе. Пры наяўнасці шасці аўтараў, сярод якіх ёсць і замежныя, а галоўнае — Алесь Разанаў, усё адно застаецца ўстойлівае пачуццё, што негалосны закон перавагі паэтычных твораў у часопісах быў не тое каб парушаны (натуральна, такі расклад неабавязковы), але часова забыты.

Па-другое, празаічныя творы, якія звычайна маюць нешта агульнае, хоць бы тонкае, ледзь заўважнае тэматычнае зніта-ванне, у № 6 «Нёмана» рассыпаюцца, не патрапляючы скласці адну карціну, хоць бы і вельмі стракатую.

Нумар адкрываецца аповесцю Мікалая Сердзюкова «Справы нашы малыя» («Дела наши малые») — своеасаблівым варыянтам гісторыі пра «маленькага чалавека». Герой аповесці журналіст Платон паўстае на фоне дробязных і бруднаватых дэкарацый з камерай пад пахай і, па вялікім рахунку, без цара ў галаве. Ленаватыя, пазбаўлены самакрытычнасці герой (зрэшты, ад самакрытычнасці ён хаваецца за грубым гумарам) не можа выклікаць спачування ў чытача, таму за бытавымі подзвігамі Платона мы назіраем прыкладна гэтак жа, як цікаўны турыст назірае за перасоўваннямі брыдкай рэптыліі за шклом. Герой застаецца чалавекам адно дзякуючы прафесіі, сакрэты якой, малапрывабныя, раскрываюцца цягам дзеі. Урэшце мы прыходзім да высновы, якую аўтар падае як каравай, праўда, без солі: жыццё — гэта і ёсць дакументальны фільм, майстрам якога мог бы быць герой аповесці, фільм «о девчонке-бродяжке, безногом инвалиде, археологических раскопках около Минска и, в конце концов, о самом себе, автоpe отнюдь не гениальном». Такая вось асучасненая версія думкі, выказанай Шэкспірам. Што з гэтым караваем рабіць — адкусіць ці моўчкі прайсці далей — вырашаць чытачу.

А далей яго чакае Алесь Разанаў у перакладзе на рускую мову (рускамоўны чытач мусіць дзякаваць Наталлі Казапалянскай). Тут каментарыі будуць лішнімі, таму проста чытайце і параўноўвайце — ці не параўноўвайце.

У паэтычнай частцы нумара прадстаўлены таксама творы Фёдара Гурыновіча і Людмілы Шаўчэнка, верлібры на тэму любові і паэзіі Таццяны Мушынскай, перакладзеныя з англійскай вытанчаныя вершы Хрысціны Расэці, а яшчэ вас чакае знаёмства з творчасцю азербайджанскай аўтаркі Лэйлы Аліевай.

Мы ж вернемся да прозы. Леанід Левановіч пераклаў на рускую мову свой аповед «Пасажыр з Капенгагена». Месца дзеі — аэрапорт — як нельга лепей ствярае атмасферу мітуслівай паспешлівасці побач з бясконцым чаканнем, дзе перасякаюцца людзі выпадковыя і вельмі розныя. З гэтых перасячэнняў могуць узнікаць цікавыя эфекты, аднак аўтар, на жаль, выкарыстаў такую мастацкую магчымасць мінімальна. Ён абмяжоўваецца развагамі пра французскіх дзяўчат, якія саступаюць у прыгажосці дзяўчатам беларускім, а потым парай штрыхоў вымалёўвае эгаістычнасць чалавека. Што да дыялогу паміж героем і таямнічым пасажырам з Капенгагена, дык ён мог адбыцца і ў іншых варунках. Апавяданне Леаніда Левановіча — гэта гісторыя пра чалавека, які застаецца ранейшым у зменлівым свеце. Вечная адзінота на фоне неўтаймоўнай глабалізацыі гучыць асабліва злавесна, і аўтар выказвае спадзеў, што ўсіх уратуе сям'я.

Фантастычна глядзіцца ў адным нумары апавяданне Міхаіла Лучыцкага «Ваяры ночы», дзе размова ідзе пра беларускіх ніндзя ў варунках ліхіх 90-х, і лірычныя мініяцюры Ніны Мацавіла: кожны сказ поўніцца ўнутранай сцішанасцю аўтаркі і яе замілаваннем светам, які і ў Лучыцага, і ў Левановіча, і ў Сердзюкова паўстае ў змрочных фарбах.

Замежную празаічную частку прадстаўляе дэтэктыў Джо Алекса ў перастварэнні — слыннага перакладчыка Мацея Сламчынскага. Твор вытрыманы ў лепшых традыцыях Конан Дойла і Агаты Крысці, што выяўляецца ў першай частцы дэтэктыва «Ціхая, як апошні ўздых».

Таксама ў нумары — слова памяці пра Юрыя Сапажкова ад Зінаіды Краснеўскай, навуковыя працы Таццяны Шамякінай і тандэма Кабржыцкая—Рагойша—Хмяльніцкі, развагі рэжысёра Валерыя Анісенкі ды інш.

**Анастасія ГРЫШЧУК**

# Напалеон і вершы

Гэтым разам «Маладосць» прапануе чатыры дэбюты: Ангела Эспіноза, Андрусь Данілевіч, Стася Кацюргіна і, верагодна, Яўген Сінічэнка. А. Эспіноза — ужо вядомая чытачам іспанка, якая піша па-беларуску вершы, казкі і амаль раман. Нізка яе верлібраў сведчыць пра фантастычнае для іншаземкі веданне нашай мовы. Калі людзі з іншых краін бяруцца яе вучыць, значыць, не ўсё яшчэ страчана! І Ангела — не адзіны прыклад нават у шостым нумары «М». Найлепшы верш з падборкі Ангелы — «Стары здымак» — кароткі эпізод, варты быць зафіксаваным і заўважаным. «Уверцюра» ж спачатку палохае «патронам паміраючага партызана» (з ім параўноўваюцца праніклівыя вочы), а потым застаецца ў памяці дзівосным для інтымнай лірыкі радком: «Твае ногі — крылы маіх мараў». А далей: «Твае мяккія рукі і мае, грубыя ды шурпатыя / Ствараць новы свет».

Паэзію працягваюць Сяргей Махнач (нарадзіўся ў Архангельску) і Аляксандр Цагельны — аўтары, якія ніадзіна звярнуліся да творчасці, што выяўляецца праз тыповыя хібы вершаў. Напачатку падаецца, што паэзія — гэта музыка слоў, таму сувязь між асобнымі думкамі-вобразамі можа быць не зусім лагічнай і дакладнай, сэнс можа выяўляцца вельмі прыблізна, і ўжо тое, што словы рыфмуюцца і складаюцца ў радкі — вялікі цуд. У выніку «мова, на якой пісаў Купала», прыпадабняецца да «паравоза, што захапіў Міколу,» а герой «ціхім шкодным катом» шукае ў небыцці светлага анёла і завяршае твор просьбай-заклікам «У яловым гушчары / Сябе мне выпіць дай, / Святы граальl!». Напэўна, аўтары пакрысе будуць уважлівей ставіцца да паэзіі (якую, як бочку мёду, можна сапсаваць лыжкай дзёгцю), дый гэтыя заўвагі зусім не новыя. У вершах Фелікса Баторына адчуваецца больш творчы вопыт, асабліва ж добра складаюцца радкі, калі ён піша пра прыроду: малюе вясновы пейзаж, прыглядаецца да мураша, звяртаецца да алегорыі восеньскага дрэва.

Упершыню трапляе ў «М» проза С. Кацюргінай, якая неадночы згадвалася ў «ЛіМе» як паэтка. Яе кароткае апавяданне паводле пералічаных падзей магло б быць ядром цэлай аповесці. Магчыма, аўтарка неўзабаве прыйдзе да роздумаў пра тое, як, калі і дзеля чаго фабульны ланцужок варта ператвараць у аповесць. А можа, сведчаннем такіх разваг стала менавіта «Чужое жыццё», якое крыху нагадвае творчасць А. Бравы схільнасцю да кантрастаў і рэзкіх




дэталяў, эмацыйна-напружаным станам герaіні, выключанай з катэгорыі «правільных» персанажаў. У рубрыцы «Cathedra» Арцём Кавалеўскі распавядае пра адрозненні між паэзіяй і прозай, працу з першым наборам студэнтаў спецыяльнасці «Літаратурная работа» і прапануе апавяданне Я. Сінічэнкі «Без пяці хвілін сямёрка». Твор звернуты да сучаснасці, тут выяўляецца і веданне псіхалогіі, і ўменне дэталёва прасачыць паводзіны персанажаў. На адной старонцы можна сказаць шмат, у тым ліку пра абсэсійнакампульсіўны характар ды сексуальную дзявіцыю. Апавяданне ж Сафі Кепес «Вар'ят для іншага», перакладзенае з французскай Таняй Загнй, — узор прафесійнай прозы, якая ў гэтым выпадку адметная павольнасцю, мяккасцю і меншай катэгарычнасцю, чым у маладых беларускіх аўтараў.

Рубрыка «ГістфакТ» зверне ўвагу сур'ёзнага чытача на ўспаміны Эдварда Тамаша Масальскага (1799 — 1879) — у перакладзе і з каментарыямі Георгія Шыдлоўскага. Напачатку Э. Масальскі згадвае сваякоў, сяброў, гувернёраў, пералічвае забавы дзяцей і шляхты, распавядае, як на Мінshчыне сустракалі войска Напалеона, апісвае стасункі бацькі з належнымі яму сялянамі. Працяг мемуараў — у наступных нумарах «М», працягам жа гэтага агляду будзе асобная рэцэнзія на аповесць Віталія Багуна «Гігантык».

**Алеся ЛАПІЦКАЯ**

# Адкрывальнік мацерыка беларускай драматургіі

**Юбілей выдатнага беларускага навукоўца, даследчыка беларускай драматургіі ўсіх перыядаў яе гістарычнага развіцця, члена-карэспандэнта Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі, прафесара Сцяпана Сцяпанавіча Лаўшука — добрая нагода звярнуцца да яго прац, уважліва перачытаць хоць бы некаторыя з іх, заглыбіўшыся ў поступ аналітычных разваг аўтара.**



## ДРАМАТУРГІЯ — ЛЮБОЎ І МЭТА

Асэнсаванне мастацкай адметнасці і нацыянальнай спецыфікі беларускага драматычнага слова адбывалася разам з яго станаўленнем. Яшчэ М. Гарэцкі імкнуўся не толькі ўнесці асабісты ўклад у развіццё беларускай драматургіі, але (падобна да М. Багдановіча, які рабіў гэта адносна паэзіі і прозы) спрабаваў прааналізаваць значэнне тэатра і драматургіі для нацыянальнай культуры, падсумаваць зробленае і вызначыць шляхі далейшага развіцця. На працягу XX ст., калі беларускае тэатральнае мастацтва дасягнула сапраўднага росквіту, узнялося на высокі ўзровень эстэтычнага спасціжэння жыцця, здаецца, не было асаблівага недахопу ў даследчыках нацыянальнай драматургіі і шляхоў яе на сцэну, да патрабавальнага і ўдзячнага гледача.

І ўсё ж С. Лаўшук прыкметна вылучаецца сярод гэтага шэрагу іншых, у якім прысутнічаюць і даволі значныя постаці. Не ён першы пачынаў вывучэнне гісторыі беларускай драматургіі, былі ў яго папярэднікі: іх імёны і спасылкі на працы можна знайсці ў кнігах самога Сцяпана Сцяпанавіча. Чаму ж тады мы называем яго гэтым пашанотным словам «адкрывальнік»? Ды таму, што ніхто, апрача яго, не прадставіў у такой выключнай паўнаце і абсяжнасці ўсё, што было створана беларускімі драматургамі за працяглы час гістарычнага развіцця нацыянальнай літаратуры.

У працах іншых даследчыкаў акрэсліваліся абрысы асобных астравоў ці нават архіпелагаў беларускай драматургіі (асобныя аўтары, перыяды, жанры), але толькі С. Лаўшук змог адкрыць цэлы мацярык нацыянальнага драматычнага мастацтва. Галоўнай мэтай жыцця ў навуцы стала для яго імкненне паказаць сапраўдныя маштабы гэтай унікальнай з'явы, выявіць вытокі і вызначыць творчы патэнцыял яе далейшага развіцця.

Не сказаць, каб С. Лаўшук не звяртаў увагі на іншыя бакі феномена нацыянальнай літаратуры. У поле яго зроку як крытыка, гісторыка літаратуры патрапляюць не толькі драматургічныя творы. І ўсё ж галоўным клопатам заўжды была — і надалей, несумненна, будзе — літаратура, якая прыходзіць да свайго адрасата з тэатральных падмосткаў, якая непасрэдна і актыўна ўздзейнічае на свядомасць і эмацыянальны стан гледача. Менавіта такую ўласцівасць драматургічнай літаратуры, яе здольнасць знаходзіць самыя прамыя і кароткія шляхі да розуму і пачуццёвай сферы чалавека, найбольш цэніць даследчык. Магчыма, якраз з гэтым у поўнай ступені звязаны выбар ім драматургіі ў якасці галоўнага і ўлюбёнага прадмета даследавання, шматбаковага і глыбокага аналізу. Прыцягальнасць драматычнага мастацтва і яго вялікае сацыяльнае значэнне, лічыць даследчык, вынікаюць найперш з дэмакратычнай сутнасці, блізкасці і зразумеласці народу.

Якімі меркаваннямі ні кіраваўся б С. Лаўшук пры выбары ўласнага напрамку навуковых пошукаў, па-за сумненнямі адно: на гэты шлях яго прывяла сапраўдная любоў да літаратуры, драматургіі, тэатра, што робіць жыццё чалавека больш асэнсаваным, даюць магчымасці для духоўнага ўдасканалення. Адначасова ўвогуле з'яўляецца прыкметнай рысай характару Сцяпана Сцяпанавіча, які назаўсёды верны аднойчы абраным жыццёвым, грамадска-палітычным і творчым арыенцірам.

## НАВУКОВЫ ДАРОБАК

З пачатку 1970-х гадоў, як паступіў у аспірантуру Інстытута імя Янкі Купалы АН БССР і выбраў для дысертацыі тэму «Праблемы сучаснай беларускай драматургіі (канфлікты і характары)», С. Лаўшук на ўсё жыццё захаваў прыхільнасць як да гэтай навуковай праблематыкі, так і да паважанай акадэмічнай установы, дзе прайшоў шлях ад малодшага навуковага супрацоўніка да намесніка дырэктара. У цяперашні час інстытут, дзе працуе С. Лаўшук, называецца крыху па-іншаму, але дзякуючы менавіта такім выбітным асобам тут захоўваюцца, падтрымліваюцца лепшыя традыцыі ранейшага інстытута, у сценах якога ўзрасло не адно пакаленне даследчыкаў беларускага мастацкага слова.

Акадэмічная навука патрабавала грунтоўнасці, шырыні ахопу, вычарпальнасці, якія ўласцівы С. Лаўшуку. Гэты падыход увасабляўся ў фундаментальныя манаграфіі даследчыка па гісторыі беларускай драматургіі. Яны вызначаліся глыбокім аналітызмам, уменнем схапіць у з'яве самае сутнаснае, суаднесці яе з сацыяльна-гістарычным кантэкстам. У рэчышчы лепшых акадэмічных традыцый выяўляла сябе такая характэрная рыса аўтарскай метадалогіі, як аб'ектыўнасць падыходу да фактаў, звязаных з гісторыяй станаўлення нацыянальнай драматургіі. Даследчык з увагай адносіўся да ўсіх без выключэння праяў драматургічнага слова і яго сцэнічных увасабленняў, якія змяшчалі зародак развіцця пазітыўнага мастацкага патэнцыялу.

С. Лаўшук аб'ектыўна падыходзіць да кожнай з'явы (ці гэта п'еса, ці яе сцэнічнае ўвасабленне), не абмінаючы гаворкі пра недахопы, слабыя мясціны, творчыя няўдачы. Пры гэтым выразна размяжоўвае тое, што ў дадзеным выпадку залежала ад самога творцы (напрыклад, недастатковасць таленту аўтара), ад таго, што абумоўлена больш аб'ектыўнымі прычынамі — грамадска-палітычнымі абставінамі, жанравай нераспрацаванасцю і г. д. Фактар часу пастаянна ўлічваецца даследчыкам як аб'ектыўны чыннік культурна-гістарычнага працэсу. У драматургічных творах, тэатральных спектаклях выяўляецца выразны адбітак свайго часу. Але і кожны значны твор аказвае ўздзеянне на фарміраванне мастацкага вобліку гістарычнай эпохі. Асаблівая роля ў гэтым належыць, вядома, найбольш выдатным майстрам і іх славутым творам, у якіх красамоўна і вобразна адлюстравалася эпоха, але і самі яны з'яўляюцца мастацкім сведчаннем свайго часу.

Пры вельмі пільным, уважлівым разглядзе і ўзважаным аналізе з'яў, датычных мастацтва драмы, якія ў сваёй сукупнасці і ўтвараюць мастацкі працэс, С. Лаўшук вылучае тыя постаці і творы, што значна ўзвышаюцца над агульным узроўнем, уяўляючы сабою вяршыні ў мастацкім развіцці нацыянальнай культуры, літаратуры і тэатра. Да ліку несумненных вяршынь у нацыянальнай драматургіі належаць (гэта доказна і аргументавана пацверджана падрабязнымі даследаваннямі драматургазнаўцы) у першую чаргу Я. Купала, К. Крапіва, А. Макаёнак.

Адзначаныя якасці даследчыцкага падыходу С. Лаўшука ў поўнай меры выявіліся ў яго шматлікіх навуковых працах — як манаграфічнага тыпу, так і ў грунтоўных раздзелах у калектыўных гісторыях нацыянальнага прыгожага пісьменства розных перыядаў. Гэта манаграфіі «Станаўленне беларускай савецкай драматургіі», «На драматургічных скрыжаваннях» і інш., раздзелы ў шматтомнай «Гісторыі беларускай літаратуры XX стагоддзя», дзе ён выступае не толькі ў якасці аўтара, але і навуковага рэдактара і г. д. Чытаючы працы С. Лаўшука, не толькі ўважліва сочыш за ходам думкі аўтара, але і захапляешся лёгкасцю і нязмушанасцю выкладу!

Стыль С. Лаўшука не зблытаеш з іншым. Думаецца, што вялікае значэнне мае ўплыў таго спецыфічнага аб'екта, вывучэннем якога займаецца аўтар. Драматычнае слова найбольш набліжана да жывога маўлення, да стыхіі народнай мовы. Зафіксаванасць на паперы — толькі адна з яго іпастасей, хоць і патрэбная, але, мабыць, не самая галоўная. Драматычнае слова жыве на поўную моц на сцэне, у тым натуральным для яго асяроддзі, для якога стваралася. Гэтая патэнцыяльная паўнагучнасць драматычнага слова выдатна адчуваецца С. Лаўшуком, мабыць, і таму, што для яго самога характэрна валоданне ўсімі рэгістрамі слова жывога, гаваркога, арыентаванага на водгук. Таму пры чытанні прац С. Лаўшука за радкамі быццам чуеш ягоны голас — з усёй непасрэднасцю інтанацый прамаўлення, разважлівасцю і пераконлівасцю тону, выразнасцю і даходлівасцю аргументацыі.

Яшчэ адна істотная адметнасць навуковага даробку С. Лаўшука: у яго працах адчуваецца цесная сувязь паміж літаратурай і тэатрам. Драматургічныя творы разглядаюцца не проста як творы літаратуры, не ізаляваны ад іх сцэнічнага ўвасаблення, а, наадварот, у іх непасрэднай спалучанасці з гісторыяй станаўлення і развіцця нацыянальнага тэатральнага мастацтва. П'еса ствараецца драматургам для таго, каб яна атрымала другое жыццё на сцэне тэатра, каб «выйшла ў людзі», выканаўшы сваё асноўнае прызначэнне — мець непасрэднае ўздзеянне на пачуцці і ўспрыманні публікі, выклікаць водгук у сэрцах, навесці на пэўны лад думак. Тэатр як мастацтва, якое знаходзіцца ў самых цесных і непасрэдных стасунках з гледачом, і ад драматурга вымагае, каб у п'есе прысутнічала магчымасць жывога і непасрэднага судакранання з глядацкай аўдыторыяй. З такіх пазіцый падыходзіць С. Лаўшук да аналізу кожнага драматургічнага твора: імкнецца разгледзець найперш зерне, якое можа даць жыццёвыя ўсходы на сцэне.

## У ГАЛІНЕ ТЭКСТАЛОГІІ

Шчырай любоўю да роднай літаратуры, нацыянальнай драматургіі і яе творцаў, імкненнем захаваць, зберагчы ўсё лепшае, створанае майстрамі мастацкага слова, можна хіба што вытлумачыць незвычайныя энтузіязм, самаадданасць, з якімі Сцяпан Сцяпанавіч працуе яшчэ на адной дзялянцы па засваенні здабыткаў беларускай культуры. С. Лаўшук багата зрабіў у галіне тэксталогіі, у справе выдання літаратурнай спадчыны. Проста дзівіцца можна з таго, як адзін чалавек змог ажыццявіць такое — падрыхтаваць і выдаць цэлыя зборы твораў! Кандрат Крапіва, Андрэй Макаёнак... Выданне збораў твораў найбуйнейшых беларускіх драматургаў — апрача ўсяго, гэта і даніна памяці С. Лаўшука выдатным майстрам, з якімі даследчык падтрымліваў асабістыя стасункі. Апошняя акалічнасць з'яўляецца важным фактарам, які, думаецца, значна паспрыяў душэўнай набліжанасці даследчыка да таго, чым жылі, што спавядалі як мастакі выдатныя беларускія драматургі, гонар нашай літаратуры.

А колькі іншых беларускіх творцаў у галіне драматургіі не абыдзена ўвагай С. Лаўшука як даследчыка, публікатара іх твораў, як прапагандыста іх творчасці. Багата зроблена С. Лаўшуком, да прыкладу, для таго, каб належнае месца ў гісторыі беларускай драматургіі і тэатра заняў высока цанімы ім Уладзіслаў Галубок, у прыватнасці, С. Лаўшуком падрыхтаваны том выбраных твораў У. Галубка, арганізавана і праведзена навуковая канферэнцыя, прысвечаная творчасці выдатнага майстра, зборнік матэрыялаў якой мае неўзабаве выйсці з друку. Прылучыўся С. Лаўшук і да вяртання ў беларускую літаратуру, нашу гістарычную памяць творчай спадчыны Міхайлы Грамыкі, напісаўшы грунтоўную прадмову да тома твораў забытага пісьменніка.

Толькі пералік зробленага С. Лаўшуком на гэтай дзялянцы заняў бы зашмат месца. Таму згадаем на заканчэнне толькі адзін буйнейшы тэкасталагічны і эдыцыйны праект, які ажыццяўляецца цяпер пад навуковым кіраўніцтвам С. Лаўшука. Гэта збор твораў народнага пісьменніка Беларусі Івана Навуменкі, у якім творчасць гэтага буйнейшага празаіка другой паловы XX ст. будзе прадстаўлена з найбольшай паўнатой. Першыя тамы гэтага выдання ўжо выйшлі з друку. Дарэчы, С. Лаўшука звязваюць з народным пісьменнікам зямляцкія пачуцці, паколькі абодва яны родам з Васілевіч, беларускага гарадка на Гомельшчыне, прыкметы якога знайшлі ўвасабленне не ў адным творы празаіка.

Так, беларуская «глыбінка» заўсёды была шчодрай на таленты!

**Яўген ГАРАДНІЦКІ**

Аблічч

# «Свет мяне паўторыць…»

Пасля вучобы ў Львове — я ў сваёй Айчыне. З Рыгі ў Мінск прыехала сястра Ніна, каб дапамагчы адзначыць 10 мая 1968 года — мой дзень нараджэння. Але самым галоўным памочнікам аказаўся... Уладзімір Караткевіч. Ён не толькі прытуліў нас у сваёй кватэры, але і запрасіў гасцей — Міхася Стральцова, Алу Сакалоўскую, пражака Вацлава Жыдліцкага, варшавяніна Алеся Барскага, якія на той час знаходзіліся ў Мінску. Неўзабаве далучыліся Валянціна Коўтун, Жэня Янішчыц, Мікола Прашковіч…



Уладзімір Караткевіч (злева) і Вацлаў Жыдліцкі. Мінск. 10.05.1968.

10 мая мы віншавалі Вацлава Жыдліцкага з уздымам «Пражскай вясны», радаваліся пераменам у яго дзяржаве. Сам ён, прафесар Карлава ўніверсітэта, на той час стаў актыўным даследчыкам беларускай літаратуры і перакладчыкам, у тым ліку і твораў Уладзіміра Караткевіча. Пазней здарылася так, што ў Празе выйшла кніга Караткевіча ў перакладзе — раней за публікацыю арыгінала ў мінскім выдавецтве. Жыдліцкі ў адным з дарчых надпісаў так патлумачыў свой клопат: «…каб людзі ведалі, што аўтара цанілі за мяжой даўно да той заслужанай ацэнкі на яго радзіме».

На сёння можна пералічыць перакладзеныя В. Жыдліцкім («метэорам з Карлава ўніверсітэта», як назваў яго Адам Мальдзіс) выданні Караткевіча: «Дзікае паляванне караля Стаха», «Нельга забыць», «Хрыстос прызямліўся ў Гародні», «Чорны замак Альшанскі».

Першага ліпеня 1973 года па запрашэнні В. Жыдліцкага ў Прагу прыбыў Уладзімір з жонкай Валянцінай Браніславаўнай (і не толькі каб атрымаць ганарар за нядаўна выдадзеную ў перакладзе кнігу). Жыдліцкі загадзя мяне папярэдзіў, і я з-пад Прагі, дзе служыў у дывізійнай газеце, прыехаў на вакзал з кошыкам трускалак. І зноў фотаздымкі, асабліва шчымлівыя тады, калі мы сустрэліся са спеваком, педагогам Міхасём Забэйдам-Суміцкім. Доўга блукалі па Празе, добра знанай нашымі продкамі ажно з XIV стагоддзя (згадаем Літоўскі калегіум пры Карлавым універсітэце).

Яшчэ раз угледзімся ў аблічча двух вясёлых дружбакоў — Вацлава і Уладзіміра. Жыдліцкі — прафесар Карлава ўніверсітэта. Пачынальнік чэшскай беларусістыкі. Адзін з заснавальнікаў Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў. Ганаровы доктар і прафесар БДУ. Караткевіч — паэт, празаік, драматург, публіцыст, перакладчык, кінасцэнарыст. Пагартайце зборнік «Уладзімір Караткевіч: вядомы і невядомы». Трэці, укладзены мною раздзел называецца «Свет мяне паўторыць…» У ім толькі вершаў-прысвячэнняў нашаму класіку ці не ад шасцідзесяці творцаў!

Ужо трыццаць гадоў, як Караткевіча няма з намі. Але верны сябрук Вацлаў Жыдліцкі прадаўжаў «паўтараць» яго ў пражскіх перакладах. «Паўтараў» не толькі ён, «паўтараюць» не толькі ў Празе. «Расту ў цане я…» — так весела называлася нізка эпіграм на вершы Караткевіча ад Савося Авося (Рыгора Барадуліна) ва ўжо згаданым раздзеле зборніка. «Свет шчодры. Свет мяне паўторыць…» Спадзяванне напісана з добрай надзеяй.

**Сяргей ПАНІЗНІК**

**Заканчэнне. Пачатак на стар. 1.**

# Помніць пра Грунвальд

І сапраўды, як пішуць падручнікі па гісторыі, «пасля Грунвальдскай бітвы цягам больш як пяці стагоддзяў на беларускія землі не ступала нага нямецкага салдата». У Польшчы кожная гадавіна бітвы пад Грунвальдам — свята дзяржаўнага маштабу, паглядзець рэканструкцыю бітвы збіраецца некалькі мільёнаў чалавек. Вялікае значэнне ўдзяляецца гэтай гістарычнай падзеі і ў Літве. У Беларусі ж фактычна адзіным тэматычным святам з'яўляецца фестываль «Наш Грунвальд», што традыцыйна праходзіць у музейным комплексе «Дудуткі».

Невыпадкова цэнтральнай падзеяй фестывалю лічыцца рэканструкцыя Грунвальдскай бітвы — надзвычай відовішчнае шоу, па колькасці ўдзельнікаў роўнае сапраўднаму сярэднявечнаму бою. Сёлета на адмысловым полі бітвы былі ўзноўлены асноўныя падзеі, вайсковыя манеўры, што адбываліся ў 1410 годзе. Адметна, што на Грунвальдскім полі больш як 600 гадоў таму была ўпершыню выкарыстана артылерыя. У Дудутках яна таксама была! І калі з-за вялікай колькасці гледачоў саму рэканструкцыю гістарычнай падзеі можна было і не пабачыць, то выбухі артылерыі дакладна чулі ўсе. Трывожныя барабанныя рытмы, што гучалі падчас бою, стваралі адчуванне небяспекі і разам з тым рабілі ўражанне значнасці падзей, што адбываюцца зараз і тут, таксама як і 15 ліпеня 1410 года.

***

Але не толькі сама рэканструкцыя Грунвальдскай бітвы штогод прываблівае ўдзельнікаў і гасцей фэсту. Цікавасць выклікаюць і іншыя блокі вайсковай праграмы — пешыя і конныя паядынкі рыцараў, турніры алебардыстаў, лучнікаў, збраяносцаў, бугурты — масавыя сярэднявечныя бойкі. Яны адбываліся па ўсіх правілах, прынятых стагоддзі таму. Сёлета турніры выклікалі надзвычайную цікавасць наведвальнікаў свята. А паколькі ахвотных паглядзець на баі рыцараў было шмат, то да рысталішчаў, што размяшчаліся на ўзроўні зямлі, было складана падысці блізка настолькі, каб хоць нешта пабачыць. Ды што казаць, нават рэканструкцыю Грунвальдскай бітвы, што праходзіла на вялікім полі, назіралі далёка не ўсе госці. Крыўдна. Магчыма, арганізатарам варта было б размясціць турнірныя рысталішчы на невялікім пастаменце (кшталту сцэны), а для сузірання рэканструкцыі збудаваць амфітэатр для гледачоў ці перамясціць поле бітвы на нейкую ўзгорыстую мясцовасць.

Варта зазначыць і адмысловую атмасферу, што панавала на свяце. Тут можна было пакаштаваць традыцыйныя беларускія напоі: збіцень, квас і медавуху, пастраляць з лука, пакідаць баявую сякеру, набыць сувеніры з гліны, скуры, срэбра, саломкі і нават пагадаць на рунах. Гандлёвая кропка з беларускімі кнігамі тут таксама была. Лагер удзельнікаў фэсту ператварыўся ў своеасаблівы атрыкцыён. Гэта як падарожжа ў гісторыю. Каля шатроў жанчыны ў сярэднявечных строях гатавалі ежу, рыцары адпачывалі, гаманілі з сябрамі, рамантавалі і рыхтавалі зброю для наступных паядынкаў.





Рыцары аб'яднанага войска Вялікага Княства Літоўскага, Каралеўства Польскага і іх саюзнікаў спяшаюцца на поле бітвы.

Падчас фэсту «Наш Грунвальд» можна было пабачыць і сапраўдныя гістарычныя цікавосткі. Гаворка ідзе не толькі пра касцюмы і даспехі ўдзельнікаў, якія кожны рыцар і дама стараюцца выканаць з максімальнай дакладнасцю і адпаведнасцю часу, але і пра гістарычныя рарытэты, прадстаўленыя ў адной з выставачных залаў музейнага комплексу. Гэта больш як шэсцьдзясяткаў арыгінальных баявых сякер II — XVI стагоддзяў.

А які ж сярэднявечны фэст без музыкі? Арганізатары адзначаюць, што канцэрт «Пір пасля бітвы» ператварыўся ў незвычайны міні-фестываль гуртоў, што граюць фольк у розных інтэрпрэтацыях — ад класічных сярэднявечных і народных мелодый да самага жорсткага фольк-року. Таму нядзіўна было пабачыць на адной сцэне беларускія гурты «Стары Ольса», Irdorath, Ceilidh Ceol, кіеўскі «FRAM» і піцерскі «Тролль Гнёт Ель».

***

Гэтым разам колькасць удзельнікаў і гасцей фэсту «Наш Грунвальд» была самай вялікай за ўсю гісторыю праводзення фестывалю. З аднаго боку, варта падзякаваць арганізатарам за выдатную працу па рэкламаванні фэсту, падборы гуртоў-выступоўцаў і фарміраванні захапляльнай праграмы. З іншага — хацелася б падзякаваць удзельнікам і гасцям «Нашага Грунвальда» за трываласць у моцную спякоту, добры настрой, зычлівасць і ўсмешлівасць, а таксама за непадробны інтарэс да мінуўшчыны. Будзем спадзявацца, што з кожным годам аматараў беларускай гісторыі будзе станавіцца ўсё больш. Магчыма, тады і наш рэканструяваны Грунвальд перамесціцца на большую пляцоўку і збярэ яшчэ больш наведвальнікаў, а там і да нацыянальнага свята будзе як рукой падаць.

**Марына ВЕСЯЛУХА,**
**фота аутара**



*Спадарыня Карын Фелікс распавядае пра сваё даследаванне надпісаў на сценах Рэйхстага.*

*Далягляды*

## Гісторыя на сценах

**Будынак Рэйхстага адлічвае сваю гісторыю з канца XIX стагоддзя. Ён будаваўся цягам дзесяці год па праекце нямецкага архітэктара Паўля Валота. Першая і Другая сусветныя войны, падзел Берліна і халодная вайна пакінулі свой след на яго сценах: Рэйхстаг неаднаразова рамантаваўся, перабудоўваўся, аднойчы яго нават хацелі спаліць. Сёння тут праходзяць пленарныя пасяджэнні Бундэстага, а сам будынак, упрыгожаны сучасным купалам з аглядавай пляцоўкай, прываблівае мноства гасцей Берліна. Тут можна пабачыць фрагмент старажытнага тунэля, па якім члены ўрада пераходзілі з аднаго будынка ў іншы, металічную урну для галасавання і мноства іншых цікавостак, звязаных з гісторыяй нямецкага Бундэстага. Але не толькі гэтым цікавы Рэйхстаг. Яго сцены захоўваюць сапраўдныя сведчанні адной з самых яркіх падзей Другой сусветнай вайны — узяцця Рэйхстага савецкімі салдатамі 9 мая 1945 года.**

Калі ў 1996 — 1999 гадах па праекце англійскага архітэктара Нормана Фостэра ў Рэйхстагу адбывалася перабудова і перапланіроўка, са сцен былі зняты панэлі. Вось тады ўсе пабачылі надпісы, зробленыя савецкімі салдатамі ў 1945 годзе. Было прынята рашэнне іх рэстаўраваць, законсерваваць і даследаваць.

— Пры рэстаўрацыі гэтыя надпісы былі законсерваваны спецыяльным растворам. З цягам часу пачарнелыя сцены былі ачышчаны сухім сціснутым паветрам, і цяпер у нас ёсць магчымасць пабачыць іх у арыгінале, — распавяла супрацоўніца службы наведвальнікаў Германскага Бундэстага Карын Фелікс. — Гэтыя надпісы застануцца тут назаўжды. Гэта вельмі важна. Ведаючы пра значэнне, якое маюць надпісы на сценах Рэйхстага для наступных пакаленняў, асабліва людзей, якія жывуць на прасторах былога Савецкага Саюза, я задалася мэтай каталагізаваць і задакументаваць надпісы, што захаваліся, і ўсё тое, што можна прачытаць і расшыфраваць.

«Калі гісторыя ажывае» — такую назву мае кніга спадарыні Карын, якая хутка пабачыць свет у Германіі і ў Расіі — у перакладзе на рускую мову. Гэтае даследаванне доўжылася 13 гадоў. Сёння многія надпісы расшыфраваны, даследчыца асабіста знаёмая з некаторымі аўтарамі, іх дзецьмі і ўнукамі. Часам загадкавыя надпісы ўдавалася расшыфраваць падчас экскурсій у Рэйхстагу.

— У асноўным на сценах напісаныя прозвішчы. Салдатам гэта важна было, маўляў, я таксама тут быў. Таксама часта пазначаецца родны горад. Тут былі людзі з Ташкента, Кіева, Сібіры, Беларусі, іншых мясцін, — адзначае спадарыня Фелікс. — Часам пры даследаванні надпісаў мне адкрываліся гісторыі сем'яў і лёсы людзей, якія прайшлі вайну. Неяк я праводзіла экскурсію для жанчын — былых вязняў канцлагера. Яны ціха стаялі і разглядалі надпісы. Пасля да мяне падышла жанчына і сказала: «Муж мне распавядаў, што нешта напісаў на сцяне Рэйхстага». Я запыталася прозвішча і вельмі хутка знайшла надпіс: «Носов». Жанчына спалохалася, што з-за слабога зроку не здолее разгледзець яго, але, пабачыўшы вялікія літары, вельмі ўзрадавалася. «Мне было пятнаццаць гадоў, калі я была ў лагеры, — распавяла яна, — а мужу было шаснаццаць, калі ён пайшоў на фронт. Мы вярнуліся дадому, ажаніліся, у нас нарадзілася дачка. Праз 60 гадоў пасля вайны Сяргей памёр». Надпіс яна пабачыла пасля яго смерці.

Гітлер не любіў будынак Рэйхстага. Ён бываў тут толькі двойчы. А падчас вайны месцам размяшчэння яго штаба ўвогуле быў бункер. Сталін пра гэта ведаў, але ўзняцце савецкага сцяга над Рэйхстагам стала прыгожым сімвалам перамогі. Сцены будынка сёння захоўваюць не толькі надпісы. Па іх чытаецца гісторыя. Тут бачна, куды траплялі кулі, дзе раней былі лесвіцы, лаўкі. Будынак Рэйхстага быў узяты савецкімі салдатамі з паўночнага боку, таму там захавалася асабліва шмат надпісаў.

— Неяк падчас экскурсіі адна жанчына заўважыла на сцяне надпіс з трох літар: «САН». Яна аслупянела, бо пазнала подпіс свайго бацькі, Сюзюкіна Аляксандра Мікалаевіча. Жанчына здзівілася, бо да самай смерці бацька нічога не распавядаў пра вайну і пра тое, што нешта напісаў на сцяне Рэйхстага, — зазначыла спадарыня Карын. — А неяк маленькая дзяўчынка пазнала на сцяне малюнак, фота якога вісіць на сцяне ў яе бабулі. Гэта выява сэрца з імёнамі «Галіна — Анатоль». Я спыталася яе прозвішча, але дзяўчынка спалохалася і заплакала. Сваё імя яна не назвала. Але цяпер мы ведаем, што гэты надпіс зрабіў чалавек з горада Калінін.

Пра гісторыю расшыфроўкі надпісаў спадарыня Карын можа весці гаворку бясконца доўга. За кожным з іх, нават самым маленькім, — лёсы людзей, якія прайшлі вайну. Таму надзвычай важна гэтыя сведчанні гісторыі захоўваць і вывучаць.

— Я не хачу пісаць гісторыю занава, — разважае даследчыца. — Я хачу толькі паказаць людзей, якія стаяць за гэтымі надпісамі, з павагі да іх лёсаў і перажытага імі ў час Другой сусветнай вайны.

Яшчэ не ўсе сакрэты сцен старажытнага будынка раскрытыя. Запытайцеся ў дзядуль, якія ваявалі і дайшлі да Берліна, можа, і яны пакінулі надпіс на сцяне Рэйхстага ў 1945 годзе?

**Марына ВЕСЯЛУХА,**
**Берлін — Мінск,**
**фота аўтара**

*Прэзентацыя*

## Па праве паэзіі

**Вясной маладая паэтка з Камянеччыны Настасся Нарэйка падпісала і даслала мне ў якасці падарунка свой дэбютны зборнік паэзіі «Магдэбургскае права маёй душы», які выйшаў у выдавецтве ААТ «Брэсцкая друкарня». Па незвычайнай ілюстрацыі на вокладцы ўжо можна здагадацца пра філасофскі, заглыблены змест і гістарычную тэматыку кнігі. З першых старонак адчуваецца дыханне слаўнай даўніны роднага краю. І гэта пры тым, што ў кнізе — паэзія, а не проза, а аўтар — маладая дзяўчына.**

Настасся Нарэйка на Берасцейшчыне даўно зарэкамендавала сябе як дасканалы майстар слова адразу ў некалькіх жанрах: яна і прафесійны журналіст (па заканчэнні Інстытута журналістыкі БДУ Настасся Нарэйка працуе адказным сакратаром у рэдакцыі газеты «Навіны Камянеччыны»), і выдатны празаік, і адметны, арыгінальны паэт. У 2012 годзе перамагла ў абласным конкурсе маладых аўтараў «Жыць дастойна!», прысвечаным юбілею Уладзіміра Калесніка.

Добрыя словы пра Насцю як пра здольную, таленавітую асобу, скажа не толькі кожны прыхільнік яе творчасці, але і кожны чытач, каму хоць калі-небудзь давялося спрычыніцца да яе паэзіі, прозы ці журналісцкай працы. Не забываюць пра паэтычны талент сваёй зямлячкі і на Маладзечаншчыне, адкуль Насця родам. Але самае значнае яе дасягненне ў літаратуры — канечне, нядаўна выдадзены зборнік паэзіі «Магдэбургскае права маёй душы».

Мудрасць Настасся чэрпае, пераймае з непаўторных духоўных крыніц творчасці класікаў: Уладзіміра Караткевіча, Марыны Цвятаевай, Ганны Ахматавай. Да прыкладу, у вершы «Слова продкаў» ад імя мінулых пакаленняў аўтарка звяртаецца да сучаснікаў: "Не забудзьце і нас! Мы сышлі, але мы засталіся. // Вашы сінія вочы і светлыя твары — ад нас..." Як кранальна і пранікнёна. Любоўю, шчырымі пачуццямі поўніцца кніжачка паэткі. Трапнымі параўнаннямі, цікавымі вобразамі, удалымі метафарамі, незвычайнымі эпітэтаміззяе яе зборнік.

**Надзея ПАРЧУК**

*Між іншым*

## Уроцлаў стане сталіцай

**Міжнародная асацыяцыя выдаўцоў, Міжнародная федэрацыя кнігагандляроў і Міжнародная федэрацыя бібліятэчных асацыяцый і ўстаноў абралі польскі Уроцлаў Сусветнай сталіцай кнігі ЮНЕСКА 2016 года. Гэты тытул горад атрымае 26 красавіка, у Сусветны дзень кнігі.**

Генеральны дырэктар ЮНЕСКА Ірына Бокава зазначыла, што Міжнародная камісія ў складзе 24 экспертаў абрала менавіта Уроцлаў «у сувязі з высокай якасцю і вялікай разнастайнасцю, якімі вылучаецца яго праграма», а таксама «на знак асаблівай увагі, якая надаецца ўдзелу шырокіх мас і спрыянню выдаўцам, кнігагандлёвым галінам прамысловасці і бібліятэкам на рэгіянальным і міжнародным узроўнях».

Адметна, што Уроцлаў у 2016 годзе стане не толькі Сусветнай сталіцай кнігі, але і Еўрапейскай сталіцай культуры. Дырэктар аргкамітэта па падрыхтоўцы да Еўрапейскай сталіцы культуры — 2016 Кшыштаф Май упэўнены: «Гэты тытул напэўна ўзмоцніць літаратурную праграму, якую мы рыхтуем у межах Еўрапейскай сталіцы культуры — 2016. Мы спадзяёмся, што паміж нашымі мерапрыемствамі будзе сінергія».

Сёлета Сусветнай сталіцай кнігі з'яўляецца Порт-Харкарт у Нігерыі, у 2015 годзе ёю стане горад Інчхон у Паўднёвай Карэі. А ў 2017 годзе на гэтае званне будзе прэтэндаваць Мінск.

**Марына ВЕСЯЛУХА**



# Танец цемры ды святла

Успаміны нярэдка нараджаюць вобразы, поўныя рамантыкі, драматызму і шчырай паэтычнасці. Карціна «Рэквіем» Мікалая Казакевіча, якая экспануецца ў Нацыянальным мастацкім музеі Беларусі, — яркае таму пацверджанне. Жывапіснае палатно ўвайшло ў дзясятку твораў, прызнаных музеем шэдэўрамі.

«Рэквіем» (напісаны ў 1986 годзе) адлюстроўвае, здавалася б, знаёмы кожнаму сельскі пейзаж: узгорыстыя палі, невялікія вясковыя домікі, серабрыста-блакітную рэчку. Але ў карціне ёсць тое, што здзіўляе з першага імгнення, — «густое», пагрозліва велічнае неба, з мноствам адценняў і сплячэнняў колеру. Праца выклікае супярэчлівыя пачуцці. У ёй, дзякуючы цёмным і глыбокім мазкам, адразу ж адчуваецца трагічнасць і сум. Але мяккая лінія святла на вадзе, далягляд, напоўнены пяшчотнымі промнямі сонца, нараджаюць у душы надзею.

Паводле куратара выстаўкі, вядучага навуковага супрацоўніка аддзела сучаснага беларускага мастацтва Нацыянальнага мастацкага музея Беларусі Валянціны Вайцяхоўскай, «Рэквіем» з'явіўся ў творчасці мастака дзякуючы шэрагу абставін. Натхненнем паслужылі падзеі ў краіне: у 1985 годзе, напярэдадні стварэння карціны, у СССР святкавалі юбілей Перамогі ў Вялікай Айчыннай вайне. Успаміны авалодалі мастаком, прымусілі звярнуцца да мінулага. Мікалай Казакевіч нарадзіўся ў 1934 годзе, таму быў яшчэ маленькім хлопчыкам, калі на Міншчыну, у родную вёску Дулебы (Бярэзінскі раён Мінскай вобласці), прыйшлі фашысты. Вайна зрабіла яго сіратой. Выхоўваўся хлопец спачатку ў партызанскім атрадзе, потым у дзіцячым доме, дзе і заўважылі яго здольнасці да жывапісу. Яшчэ адным штуршком да стварэння «Рэквіема» паслужыў убачаны мастаком прыродны матыў, які нібы адгукнуўся на асабістыя перажыванні аўтара і даў канчатковую форму яго твору.

«Мікалай Казакевіч заўсёды ідзе ў сваіх працах ад канкрэтных уражанняў, але не паўтарае іх, а інтэрпрэтуе», — адзначыла Валянціна Вайцяхоўская.

Заслужаны дзеяч мастацтваў Рэспублікі Беларусь, лаўрэат дзяржаўнай прэміі нашай краіны, Мікалай Казакевіч з'яўляецца яшчэ і адным з заснавальнікаў гомельскай школы жывапісу. Яго працы вызначаюцца жыццесцвярджальнай энергетыкай, пазітыўным успрыманнем свету. З тэхнічнага боку ў карцінах майстра пераважаюць плаўныя формы, тонкі лірызм, узаемапранікненне і разнастайнасць фарбаў. У адной з гутарак з журналістамі ён прызнаўся, што больш за ўсё яго натхняюць свет, жыццё, колер, беларуская зямля, асабліва Гомельшчына і яе людзі.

Творы жывапісца выстаўляліся, выклікаючы цікавасць, не толькі на Радзіме, але і ў Расіі, Германіі, Чэхіі, Аўстрыі, Балгарыі, Фінляндыі, Польшчы і іншых краінах.

**Марыя ВОЙЦІК**

# Бачнае нябачнае

Аксана Бодзіш — таленавітая мастачка, чалавек, здольны бачыць чароўнае навокал.

У Цэнтры сучасных мастацтваў адкрылася выстаўка, што з'яўляецца часткай беларуска-венгерскага міжнароднага мастацкага праекта.

Гэтае мерапрыемства — падзея як для знаўцаў мастацтва, так і для тых, хто проста захоча знайсці адхланне для душы і дакрануцца да незвычайнага. Шмат дарослых і маленькіх гасцей прыйшлі пабачыць карціны, якія поўняцца магічнай прыгажосцю. На працягу ўсёй выстаўкі ў залах панавала светлая, сяброўская атмасфера. Выстаўцы з яскравай назвай «Бачнае — Нябачнае» адведзены дзве залы Цэнтра сучасных мастацтваў, што дазваляе ў поўнай меры адчуць талент творцы, прапусціць праз сябе незвычайную аўтарскую тонкасць успрымання і хоць на гадзінку вярнуцца ў свет дзяцінства. Дадайце да свайго жыцця крыху чараўніцтва! Выстаўка будзе доўжыцца да 15 жніўня.

**Настасся ЖЫЛКО**



# Дуброўскі. Вяртанне на радзіму

Сумесны беларуска-расійскі мюзікл «Дуброўскі» паказалі на Міжнародным фестывалі мастацтваў «Славянскі базар у Віцебску — 2014». Пастаноўка ладзілася ў межах Дзён Саюзнай дзяржавы, а першыя прэм'ерныя паказы — яшчэ ў маі на сцэне Музычнага тэатра. Праект рэалізаваны ў Беларусі невыпадкова: у аснову твора «Дуброўскі» легла рэальная гісторыя памешчыка Астроўскага з Віцебскай губерні.

Аўтар музыкі і прадзюсар праекта Кім Брэйтбург пайшоў на рызыку: літаратурную класіку спалучыў з рокам, R&B і поп-музыкай. Вакалісты вучыліся танцаваць, а харэографы — спяваць. У мюзікле ўдзельнічаюць больш як 100 студэнтаў Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта культуры і мастацтваў: артысты аркестра, салісты-вакалісты, харэографы, рэжысёры, менеджары. Артыстам ад 16 да 25 гадоў, для многіх гэта наогул першы выхад на прафесійную сцэну.

— Мы паспрабавалі стварыць канкурэнтны прадукт, з якім можна гастраляваць па іншых краінах. Праца над мюзіклам вялася з лістапада 2013 года. Бюджэт праекта забяспечаны выключна за кошт сродкаў навучальнай установы без прыцягнення датацый, — адзначыў, рэктар Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта культуры і мастацтваў Юрый Бондар.

Кім Брэйтбург паведаміў, што ў 2010 годзе мюзікл быў пастаўлены ў адным з вядучых музычных тэатраў Расіі — Новасібірскім. Пастаноўка і сёння ў рэпертуары гэтага тэатра. Але версія, пастаўленая ў Беларусі, істотна адрозніваецца. Гэта праца студэнтаў вядучай ВНУ краіны ў галіне эстрады. «І ўсе ж праект абсалютна прафесійны», — падкрэсліў К. Брэйтбург. Кампазітар распавёў, што ў новым тэатральным сезоне спектакль будуць паказваць у Мінску адзін-два разы на месяц, плануюцца гастролі і па іншых гарадах Беларусі.

Мюзікл, нагадаем, пастаўлены па матывах аповесці А. С. Пушкіна. Лібрэта Карэна Кавалерана. Рэжысёрска-пастановачнай групай кіруе заслужаны дзеяч мастацтваў Расіі Мікалай Андросаў. Сурэжысёрам з беларускага боку стаў Аляксандр Вавілаў.

**Таццяна ШЫМУК**





# Няма асаблівасц*ей* без дробяз*ей*

Ва ўжыванні склонавых канчаткаў назоўнікаў жаночага роду III скланення ў друкаваных і электронных СМІ назіраецца неаднастайнасць, бо факультатыўнае дапушчэнне дзвюх паралельных форм *-эй (-ей)* і *-аў (-яў)* нарматыўнымі крыніцамі дае аўтарам прастору адвольнага выбару канчаткаў без уліку структуры слова і націску. Так, калі «Настаўніцкая газета» ўжывае толькі канчатак *-эй (-ей)*: *сувязей, магутнасцей, дробязей, уласцівасцей, сумесей*, то ў «Звяздзе» дамінуючы *-аў (-яў)*: *вытворчасцяў, сувязяў, магчымасцяў, сумесяў* і *-эй (-ей)* ужываецца толькі пад націскам: *абласцей, гусей, мышэй*.

Такая варыянтнасць сфарміравалася па прычыне гістарычнага дапушчэння паралельных форм граматыкамі і слоўнікамі, арфаэпічным уплывам. На працягу ўсяго XX стагоддзя ў рэкамендацыях канчаткаў III скланення вызначальную функцыю адыгрываў націск. Так, Б. Тарашкевіч («Беларуская граматыка для школ», 1918), Я. Лёсік («Беларуская мова», 1924) пад націскам рэкамендавалі канчатак *-ей (-эй)*: *касьце́й, гусе́й, часьце́й*, не пад націскам — *-аў (-яў)*: *но́чаў, ведамасьцяў, дало́няў і пячэ́й / пе́чаў*. У «Праекце спрашчэння беларускага правапісу» (1933), выдадзеным перад Пастановай СНК БССР (1933), адзінымі для назоўнікаў жаночага роду на зычны ў родным склоне множнага ліку, як пад націскам, так і не, былі прызнаны канчаткі *-эй (-ей)*: *мышэ́й, касце́й, ме́ншасцей, дро́бязей*. Але не пад націскам *-аў (-яў)* быў верагодны. Так было і ў «Правапісе беларускай мовы» (1934), першай акадэмічнай «Беларускай граматыцы» (1936): *дробязей / дро́бязяў, меншасцяў / ме́ншасцяў*. Гэта, хутчэй за ўсё, дало магчымасць далей існаваць паралельным формам, якія прымаліся нават у «Арфаграфічным слоўніку» (1948) М. Р. Судніка і М. П. Лобана.

«Праектам змен і ўдакладненняў беларускага правапісу…» (1951), распрацаваным у Акадэміі навук БССР пад рэдакцыяй Якуба Коласа, канчаткі III скланення роднага склону множнага ліку былі зноў прыведзены да адзіных *-эй (-ей)*: *начэй, пячэй, касцей, арцелей*, што атрымала ўхваленне лінгвістаў і педагогаў. У акадэмічнай «Граматыцы беларускай мовы» (Т.1, 1962) канчатак *-аў* мог быць толькі ў назоўніках на шыпячы не пад націскам: *рэчаў, печаў*. У 1960 — 1970-я гг. узнікаюць думкі аб ужыванні *-аў (-яў)* не пад націскам як дакладнай перадачы паслянаціскных гукаў: *пе́чаў, рэ́чаў, да́ляў і сенажа́цей / сенажа́цяў* (А. Каўрус, Л. Падгайскі, П. Сцяцко). Іншую пазіцыю займалі К. Крапіва, Г. Арашонкава, А. Наркевіч. «*Няма ніякай падставы замацоўваць іх* [формы *радасцяў* замест *радасцей*] *у якасці нормы літаратурнай мовы*», — пісаў Кандрат Крапіва.

Акадэмічнай «Беларускай граматыкай» (Ч.1, 1985) для III скланення з асновай на мяккі зычны замацоўваўся канчатак *-ей* пад націскам: *гусе́й, касце́й, ніце́й* і не пад націскам: *адле́гласцей, мадэ́лей, ла́ней*, для назоўнікаў з кампанентам *-часць*: *мотачасце́й, авіячасце́й*, а таксама *абласце́й, крыве́й, свекрыве́й*. Але не пад націскам маглі быць формы *бандэро́ляў, гра́няў, арце́ляў*. Назоўнікі *мыш, печ, ноч* мелі канчатак *-эй*, а *рэч, флеш, шчолач* — *-аў*.

З 1990-х гг. актывізаваліся думкі аб вяртанні да норм 1920-х гг. як больш натуральных, у тым ліку да канчатка *-аў (-яў)* у III скланенні роднага склону множнага ліку. У падручніках 1990-х гг. на падставе ненаціскнога становішча канчатка або распаўсюджанасці формы ў гутарковай мове дапускаўся *-аў (-яў)* як асноўны або варыянтны: *шчо́лачаў, да́ляў, асаблі́васцей / асаблі́васцяў*. Калі звярнуцца да дыялектных матэрыялаў, то атрымліваем, што словаформы тыпу *ночаў* сустракаюцца ў маўленні на тэрыторыі паўднёва-заходняй зоны, аднак на астатняй тэрыторыі Беларусі распаўсюджана форма *начэй*.

Акадэмічная «Кароткая граматыка беларускай мовы» (2007) рэкамендуе як нарматыўныя канчаткі *-эй (-ей)*: *плы́ней, адле́гласцей, пячэ́й*, пры канчатку не пад націскам магчыма ўжыванне паралельнай формы *-аў (-яў)*: *я́касцяў, да́ляў, шчо́лачаў*. Такая пазіцыя і ў школьных падручніках, выданнях для падрыхтоўкі да цэнтралізаванага тэсціравання. Але менавіта для выканання тэстаў, якія правяраюцца аўтаматызавана, дапушчэнне паралельных форм непажадана.

Каб вызначыць найбольш характэрныя для назоўнікаў III скланення канчаткі паводле структуры слова, націску, варта звярнуцца да сучасных слоўнікаў. Аналізуючы рэкамендацыі форм III скланення ў родным склоне множнага ліку (257 лексем), заўважаем, што часцей падаюцца дзве раўнапраўныя формы *-эй (-ей)* і *-аў (-яў)* — 107 адзінак (42% ад агульнай колькасці). У той жа час лексем, што рэкамендуюцца толькі з адным канчаткам, *-эй (-ей)* — 89 (34,5%), з *-аў (-яў)* — 11 (4%). Акрамя таго, 50 лексем (19,5%) маюць разыходжанні ў падачы форм у розных выданнях.

У шматскладовых назоўнікаў з асновай на мяккі зычны 60 адзінак з націскам не на апошнім складзе асновы (30%) рэкамендуецца з канчаткам *-ей*: *адле́гласцей, во́сеней, здо́льнасцей, па́парацей*, для 5 лексем з кампанентам *-часць (мотачасце́й)* і формы *абласце́й* рэкамендуецца толькі *-ей*. Аднолькавая колькасць лексем, але з націскам на апошнім складзе асновы маюць два канчаткі: *мадэ́лей / -яў, дэта́лей / -яў, мячэ́цей / -яў, паўво́сей / -яў*.

Аднаскладовыя назоўнікі з асновай на мяккі зычны пераважна падаюцца з двума канчаткамі (60,5%): *ла́ней / -яў, плы́ней / -яў, га́цей / -яў*. Традыцыйны *-ей* прымаюць 6 аднаскладовых лексем з націскам на канчатку: г*усе́й, касце́й, траце́й, страсце́й, сяце́й, часце́й*. У 12 лексем варыянтнасць націску ўплывае на канчатак: *кісце́й / кі́сцяў, масце́й / ма́сцяў, ніце́й / ні́цяў*, у частцы з іх адбываецца пазіцыйнае чаргаванне галосных у аснове: *вясце́й / ве́сцяў, пячэ́й / пе́чаў, начэ́й / но́чаў*. Толькі з *-яў* зафіксаваны аднаскладовы назоўнік *грыдзь*, шматскладовыя *прапаведзь, пропісь, прораззь*.

Лексемы на губны зычны *верф, свякроў, глыб* падаюцца ў «Кароткай граматыцы беларускай мовы» (2007) з *-ей*, у той час калі ў слоўніках *верф, свякроў* маюць дублетную форму з *-ей / -яў* і *глыб* — толькі канчатак *-яў*. Назоўнікі на шыпячы нешматлікія, 5 з іх рэкамендуюцца з канчаткам *-аў*: *да́лечаў, рэ́чаў, электрапе́чаў, шчо́лачаў, фле́шаў*, 3 — з *-эй*: *начэ́й, мышэ́й, свалачэ́й*, адзін са спецыфічным канчаткам *-ай* — *вошай*. Для назоўніка *печ* у адных выданнях на першым месцы падаецца — *эй / -аў*, у другіх — перавага аддаецца — *аў / -эй*.

Такім чынам, з улікам заканамернасцей нарматыўнай падачы, больш прымальным будзе ўжыванне канчаткаў паводле структуры слова і націску. У большасці выпадкаў будзе ўжывацца *-эй (-ей)*: *часце́й, по́стацей, кашто́ўнасцей, ме́ншасцей;* у тым ліку пры варыянтнасці націску, *-аў (-яў)* будзе ў першым складзе пасля націску: *дэта́ляў, мішэ́няў, да́лечаў, ла́няў, глы́бяў*. Гэта зменшыць паралельнасць форм і пашырыць нарматыўны *-эй (-ей)* у шмаскладовых назоўніках. Аднаскладовыя назоўнікі пераважна будуць ужывацца з *-аў (-яў)*: *гра́няў, ве́рфяў, рэ́чаў*, акрамя выпадкаў націскнога канчатка: *пячэ́й, начэ́й, крыве́й*.

**Кацярына ШЧАСНАЯ,**
**Цэнтр даследаванняў беларускай культуры, мовы і літаратуры НАН Беларусі.**

**Канчаткі роднага склону множнага ліку назоўнікаў III скланення**

| | | |
|---|---|---|
| ***-эй (-ей)*** | а) усе назоўнікі з націскам на канчатку | *гусе́й, мотачасце́й, абласце́й, мышэ́й* |
| | б) шматскладовыя назоўнікі з націскам не на апошнім складзе асновы | *асаблі́васцей, вытво́рчасцей, славу́тасцей, ме́ншасцей, супо́льнасцей, біясу́вязей, размаі́тасцей* |
| ***-аў (-яў)*** | а) шматскладовыя назоўнікі з націскам на апошнім складзе асновы | *супермадэ́ляў, панэ́ляў, дало́няў, аўтадэта́ляў, шчо́лачаў, не́мачаў* |
| | б) націск на аснове ў аднаскладовых назоўніках | *гра́няў, ма́зяў, ры́сяў, ве́рфяў, рэ́чаў* |
| Пры варыятнасці націску *кісце́й / кі́сцяў, пячэ́й / пе́чаў* — аддаваць перавагу *-эй (-ей)* | | |

# Два музеі аднаго настаўніка



Вітольд Ермалёнак — настаўнік гісторыі трэцяй Міёрскай школы Віцебскай вобласці. Гэта чалавек, які жыве гісторыяй і ведае родны край. У Міёры ён прыехаў адразу пасля заканчэння Гродзенскага педагагічнага інстытута. Больш як 30 гадоў адначасова з настаўніцкай працай займаецца краязнаўчай справай: збірае, захоўвае ўсё, што можа аб'ектыўна распавесці пра час і людзей. У 1986 годзе ў сярэдняй школе № 3 г. Міёры заснаваў гісторыка-краязнаўчы музей — з матэрыялаў, сабраных за 10 гадоў працы гуртка «Арганаўты мінулага».

Тут пабывала ўжо 40 тысяч чалавек. За год праводзіцца больш як 100 экскурсій. Музей налічвае 8 тысяч экспанатаў асноўнага і навукова-дапаможных фондаў. 10 раздзелаў раскрываюць гісторыю краю ад старажытнасці да сучаснасці. Унікальныя экспанаты музея: крамнёвы серп (III тысячагоддзе да н. э.), выява сабакі і каменная сякера з арнаментам II тысячагоддзя да н. э., фальшывы арабскі дырхем (X ст.) — адзіная знаходка ў свеце!

Са з'яўленнем у школе вольнага памяшкання для экспазіцый настаўнік стварае другі музей: 16 студзеня 2009 года адбылося ўрачыстае адкрыццё музея «Кнігі і друк» пра з'яўленне пісьменства, развіццё кніжнай справы. Галоўнае — зацікавіць дзяцей і прывіць ім любоў да чытання. Выхаванне патрыятызму і грамадзянскасці пачынаецца з любові да сваёй сям'і, дому, школы, мястэчка.

У раздзеле «Вытокі пісьма» знаходзяцца папірусы, берасцяныя граматы, пергаментныя старонкі, надпісы на камянях, гліняныя дошчачкі. Вялікую цікавасць і каштоўнасць уяўляюць рукапісныя і старадрукаваныя кнігі XVII—XVIII ст. на старaславянскай, польскай, лацінскай, французскай і іншых мовах. Раздзел «Духоўная літаратура» прадстаўлены разнастайнымі выданнямі Бібліі, малітоўных кніг. Шмат выданняў адносіцца да такіх галін ведаў, як медыцына, сельская гаспадарка, гісторыя, юрыспрудэнцыя. Не пакінуць абыякавымі гасцей музея экспазіцыі раздзелаў «Газеты», «Часопісы», «Календары», «Маркі», «Рэклама», «Паштоўкі».

У склад экспазіцыі ўваходзіць мноства цікавых рэчаў. Сярод іх — унікальны 16-ы том з поўнага збору твораў вядомага філосафа Жан-Жака Русо. Кніга на французскай мове была выдадзена ў 1795 годзе ў Швейцарыі і адзначана, магчыма, аўтографам кампазітара Роберта Шумана.

Пра некаторыя выданні, якія тут захоўваюцца, вядомыя музеі свету могуць толькі марыць. За шклом — толькі дзесяць працэнтаў фонду. Большасць старых выданняў з калекцыі Вітольда Антонавіча захоўваецца як самы каштоўны сялянскі набытак у куфры. Пераважная колькасць матэрыялу, у тым ліку велічэзная калекцыя духоўнай літаратуры, знойдзена на тэрыторыі Міёрскага краю.

Вітольд Ермалёнак аддае ўсе сілы на спазнанне непаўторнасці родных мясцін, гістарычнага шляху Беларусі, яе матэрыяльнай і духоўнай культуры. Ён узнагароджаны знакам педагагічнага таварыства «За актыўную працу», у 2011 годзе атрымаў званне «Выдатнік адукацыі». За краязнаўчую дзейнасць у 2000 годзе быў адзначаны прэміяй Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь «За духоўнае адраджэнне».

**Настасся САРАЧЫНСКАЯ,**
**фота аўтара**

# Моўныя прыкметы «натуралізаваных» беларусаў

*Прысвячаецца выдатнай даследчыцы, добрай прыяцельцы Н. С., якая падказала ідэю гэтай работы*




За апошнія гадоў дваццаць адбылася трансфармацыя сацыяльных пластоў, якія выкарыстоўваюць беларускую мову: у вёсцы мова знікае, але, з іншага боку, горад пашырае беларускамоўны сегмент — за кошт мабільнай моладзі, інтэлігенцыі дый увогуле прагрэсіўных людзей. З розных прычын чалавек пераходзіць на беларускую мову: нехта дэманструе сваю пазіцыю, нехта гоніцца за модай, яшчэ нехта — за экстравагантнасцю і г. д. «Натуралізаваныя» беларусы, якія ад пачатку не валодалі мовай прашчураў, маюць пэўныя праблемы пры яе засваенні: не толькі хібы, але і штучныя элементы. Увазе чытачоў прапануецца пералік памылак і асаблівасцей, характэрных для тых, хто адпачатку гаварыў на рускай або трасянцы, а беларускую засвоіў пазней. Часам яны прысутнічаюць і ў «натуральных» беларусаў.

Аўтар гэтай працы не прэтэндуе на вычарпанасць тэмы, але заклікае спецыялістаў выканаць падобнае даследаванне на навуковым узроўні.

## АРФАЭПІЯ

Вымаўленне з'яўляецца ці не галоўнай прыкметай асваення народнай мовы. Вывучыць мову — адно, правільна вымавіць — іншае.

У беларускай мове асіміляцыя па мяккасці вельмі распаўсюджаная. Выпадкі яе адсутнасці нас не цікавяць (як і адваротны акцэнт з выбухным *г* і мяккім *ч*). Тут усё ясна. Асіміляцыю многія пры жаданні адольваюць, але не бачаць тонкасцей у вымаўленні. А варта ведаць, што *с', з', ц', дз'* у беларускай мове — ці то ў асіміляцыйных пазіцыях перад мяккім зычным (акрамя *г, к, х*), ці то ўвогуле пры мяккасці — вымаўляюцца вельмі мякка, прынамсі, мякчэй, чым адпаведныя гукі ў рускай мове, недзе ў кірунку польскіх аналагаў *s', z', c', dz'*, не даходзячы, аднак, да іх.

## ГРАМАТЫКА

Не менш складана асвойваюцца аспекты граматыкі. Памылкі ў іх могуць быць не настолькі відавочнымі ў параўнанні з арфаэпіяй, асабліва пры веданні найбольш пашыраных формаў. Пералічым найбольш частыя.

Многія парушэнні нормы абумоўлены ўплывам рускай мовы, з якой адбываецца калькаванне. У прыватнасці, сярод «навучаных мове» часта чуецца прыслоўе «пабольш» (*паболей, паменш, паменей*) — прычым такая форма трапіла нават у кніжныя тэксты! — у той час, калі беларускім аналагам з'яўляецца выраз з прыназоўнікам «чым»: *чым больш* (або проста *больш* — у залежнасці ад кантэксту).

Асабліва пашырана ўжыванне канчатка *-ам* у М. скл. мн. л. замест *-ах*: *па палям — па палях, па машынам — па машынах*.

Абсурдны перабор часам назіраецца ў прымяненні канчатка *-у* ў назоўніках Р. скл. м. р. адз. л. (напрыклад: *да днЮ роднай мовы*). У той жа час іншыя зусім ігнаруюць гэты канчатак, нават у выпадках абавязковага яго ўжывання выкарыстоўваць канчатак *-а*. Тут выяўляецца ўплыў адпаведна польскай і рускай моў (зрэшты, канчатак у такіх формах з'яўляецца праблемным нават для добрых знаўцаў, таму размова ідзе пра крайнія тэндэнцыі).

Вельмі грубай (але, на жаль, нярэдкай) памылкай з'яўляецца адсутнасць чаргавання зычных пры палаталізацыі ў выніку скланення слоў, аснова якіх заканчваецца на *«г»*, *«к»*, *«х»*: напрыклад, *казка — у казке* (замест правільнага «у казцы»); *рука — на руке* (замест «на руцэ»); *Вераніка — Вераніке* (замест «Вераніцы»).

Часам здараецца і супрацьлеглы варыянт, калі пачынаюць чаргаваць зычныя, дзе не трэба: *няма яго дачцы* — замест *няма яго дачкі.*

Няўменне скланяць словы «дзіця», «парася», «цяля», «кацяня» і да т. п. (відаць, праз рэдкую неабходнасць прымяняць іх на практыцы): ужыванне ў Р., Д., М. скл. формы Н. скл. — «*дзіця*» замест правільнай «*дзіцяці*».

Блытанне займеннікаў *сабе — сябе* (часам *табе — цябе*). Напрыклад: "Што ты сябе думаеш?", "Не бяры сябе да галавы", "Як сябе хочаш".

Няўменне правільна ўтвараць форму дзеяслова 2-й асобы мн. л.: кажуць «жыв*е*це», «ідз*е*це» (з націскам на перадапошнім складзе) замест правільнага «жывяц*е*», «ідзяц*е*» (з націскам на апошнім складзе).

Імкненне да беларускамоўнасці спараджае тэндэнцыю «збеларушчваць» і такія словы ці элементы, якія гэтага не патрабуюць. Напрыклад, суфікс «ір», які надзвычай шырока распаўсюджаны ў рускай і адсутнічае ва ўкраінскай, у нашай ужо стала заняў сваё месца. Між іншым яго хочуць ліквідаваць: або праз прыбіранне (тады кажуць «асацыюецца» замест «асацыіруецца»), або праз трансфармаванне нібыта ў бок больш беларускага гучання (тады кажуць «камандыроўка», «камандыр» замест «камандзіроўка», «камандзір»).

Выклікае праблемы ўтварэнне множнага ліку ад слова «дзяўчына» — «дзяўчыны», калі трэба «дзяўчаты» (форма «дзяўчыны» выкарыстоўваецца толькі на месцы, дзе некалі быў парны лік (які зархаізаваўся) — ад дзвюх да чатырох: чатыры дзяўчыны).




## АКЦЭНТАЛОГІЯ

Засваенне мовы праз навучанне (асабліва на аснове падручнікаў) непазбежна адаб'ецца на націсках. У прыватнасці, заўважаны такія выпадкі няправільных націскаў: *скаргА* — замест *скАрга, вадзЯнік* — замест вадзянІк, пастаноўка націску на манер рускамоўных формаў: *спалА, забралА.* Акцэнталагічныя праблемы маюць характар індывідуальны, але абавязкова прысутнічаюць у вывучанай мове.

## ЛЕКСІКА

На слоўнікавы склад мовы звычайна звяртаецца першасная ўвага тых, хто яе спасцігае. Некаторыя нават мяркуюць, што колькасныя паказчыкі тут — гэта найлепшае сведчанне валодання мовай. Яны, безумоўна, важныя. Але іх нельга абсалютызаваць. Правільнае прымяненне слоў таксама можа шмат паведаміць пра носьбіта мовы. Да прыкладу, пытанне «Як справы?» — яўная штучная калька, натуральны аналаг якой — пытанне "Як маешся?".

Ізноў-такі не будзем чапаць відавочныя хібы, блытаніну ў сэнсах (накшталт: «Добры дзень, дарагая рэдакцыя! Вас бянтэжыць малады пісьменнік» — без каментарыяў; альбо: *апынуцца* замест *аказацца*). Паўсюдна сустракаецца ўжыванне некаторых, прабачце за таўталагічнасць, занадта слоўнікавых слоў, выразаў — замест больш натуральных для пэўнага кантэксту, больш адпаведных стылю выказвання: *дрэнна* замест *кепска, цудоўна* замест *хораша, памятаць* замест *помніць, распавядаць* замест *расказваць, асадка* замест *ручка* і інш.

Запаланілі сучасны беларускамоўны дыскурс займеннікі на *-сьці* (*дзесьці, хтосьці, чыйсьці, якісьці* і г. д.), якія выцяснілі свае аналагі з пачатковай часціцай не- (*недзе, нехта, нечый, нейкі* і г. д.), — прычым у сітуацыях, калі відавочна на *-сьці* не пасуе («якіхсьці» ніколі не пасуе, «нейкіх» заўсёды лепей).

У многіх моўцаў назіраецца комплекс перад выкарыстаннем некаторых нейтральных беларускіх слоў (якія ў рускай маюць грубую канатацыю ці мадальнасць): *дзеўка, цыцкі, жыд*. Або наадварот — пашырэнне беларускіх слоў на непрымальныя паняцці: *адчыніць вочы, бутэльку* (а можна толькі *дзверы* ці *вокны*).

## СІНТАКСІС

Ці не найтанчэйшым аспектам у засваенні мовы з'яўляецца сінтаксіс. Нярэдка да яго ставяцца як да другаснага, тым больш калі вышэйпамянёныя пласты прайшлі адносна ўдалую апрабацыю. А насамрэч тут шмат «падводных камянёў». Яны абумоўлены часцей за ўсё ўплывам ці то рускай мовы (бо, як правіла, менавіта ёю карысталіся раней), ці то польскай (пры веданні апошняй — з мэтаю адрознення ад рускай мовы).

Так, у апісанні мэты руху натуралізаваныя беларусы выкарыстоўваюць канструкцыю з прыназоўнікам «за»: *пайсці за хлебам.* Трэба ж прымяняць прыназоўнік «па»: *пайсці па хлеб.*

Прыкладна тое самае назіраецца стасоўна ўжывання прыназоўнікаў «аб» — «пра» ў дачыненні да назоўнікаў адпаведна Тв. і В. склонаў: для беларускай мовы больш характэрны другі варыянт: *думаю пра экзамен*, а не *аб экзамене* (хоць у кніжных стылях распаўсюджаны і прыназоўнік «аб»).

Апошнім часам усё больш сустракаецца ў тэкстах і пры размовах прымяненне польскага прыназоўніка «да» ў месцах беларускага прыназоўніка «у»: *паехаў да Менска — паехаў у Менск.*

## ЗАКЛЮЧЭННЕ

Да ўсяго сказанага трэба дадаць агульную стэрыльнасць, дыстыляванасць мовы «натуралізаваных» беларусаў, адсутнасць у ёй дыялектных элементаў. З чаго вынікае, што пры ўсёй неабходнасці ўдасканальваць сваю мову і маўленне не варта схематызавацца, аддаляцца ад прыродных вытокаў, а наадварот — шчодра чэрпаць у іх моўныя веды і навыкі (галоўнай крыніцай тут стане літаратурная класіка — ад В. Дуніна-Марцінкевіча і Ф. Багушэвіча да В. Гардзея і А. Федарэнкі, прычым, некаторыя раяць чытаць уголас, а вершы завучваць; на жаль, народных моўных асяродкаў становіцца ўсё менш і менш, хоць дарэшты яны яшчэ не зніклі). Сам працэс удасканалення трэба ажыццяўляць па ўсіх напрамках, сярод якіх, бадай, няма магістральных, бо любая мова — з'ява комплексная і роднаснасць беларускай з суседнімі можа аказацца падманлівай.

**P. S.** Аўтар просіць успрымаць матэрыял не як імкненне прынізіць ці абразіць, але як міні-дапаможнік па асвойванні ў багатай і каларытнай беларускамоўнай стыхіі. А рэдакцыя запрашае чытачоў «ЛіМа» далучыцца да абмеркавання.

Калі артыкул быў падрыхтаваны, выявілася, што зусім нядаўна ўбачыла свет брашура Веранікі Бандаровіч «Стыльна па-беларуску: комплексны даведнік па культуры маўлення» (Мінск, 2013), у якой вылучаны шэраг аспектаў, аналагічных разгледжаным у нашым артыкуле. Думаецца, гэтае выданне і наша міні-даследаванне стануць узаемадапаўняльнымі.

**Анатоль ТРАФІМЧЫК,**
**малюнкі Алесі Ісы**

# Пасланні скрозь час



Далютэ-Она Матулайтэ
«Ліст Крысціёнаса Данелайціса ІІ. Парламенту».

**Аб'яднаная перасоўная выстаўка Саюза мастакоў Літвы «Партрэт стагоддзя» адкрылася ў сталічным Палацы мастацтва. Летась экспазіцыя была прадстаўлена ў Калінінградзе, пасля — у Герліцы (Германія) і Варшаве, а нядаўна «наведала» Гродна. Прысвечана выстаўка 300-годдзю з дня нараджэння літоўскага паэта Крысціёнаса Данелайціса, аўтара паэмы «Чатыры пары года», якая перакладзена на многія мовы свету, у тым ліку і на беларускую.**

Праявы гадавога цыкла яскрава адлюстраваны ў палотнах Марцінаса Янкуса («Дабро восені»), Броніуса Гражыса («Зіма», «Вясна», «Лета», «Восень»), Жывіле Ясутэне («Даброты восені»), Сімонаса Скрабуліса («Радасці вясны»), Рычардаса Барткявічуса («Вясна») і г. д. Тут можна пабачыць не толькі пейзажы. Жанравая шматпланавасць, багатая палітра, выдатнае мастакоўскае адчуванне колеру і пластыкі пакідаюць моцнае ўражанне. У творах бачнае не толькі ўменне ствараць, але і разважаць.



Рытас Бялявічус «Кандэнсатар Данелайціса».

Што да скульптур, то многія аўтары ўвасобілі ў іх свайго роду прысвячэнні паэту. У ліку такіх твораў — «Час» Кейстутаса Лакаўскаса, «Ліст Крысціёнаса Данелайціса ІІ. Парламенту» ды «Бяспечнае жыллё» Далютэ-Оны Матулайтэ, «Крысціёнасу Данелайцісу» Сігіты Дацкявічутэ, «Мікрасхема Данелайціса» Рытаса Бялявічуса.

З суседняй краіны на вернісаж прыехала больш як 30 творцаў на чале са старшынёю Саюза мастакоў Літвы Эдытай Утарэне, якая паведаміла, што сёлета плануецца прадставіць гэтую экспазіцыю ў Іспаніі, бо паэма К. Данелайціса перастворана і на мове гэтай краіны. Ансамбль салістаў «Класік-Авангард» Белдзяржфілармоніі пад кіраўніцтвам Уладзіміра Байдава аздобіў выстаўку праграмай «Музыка Літвы і Кароны».

Ва ўрачыстасці таксама ўзяў удзел Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Літоўскай Рэспублікі ў Беларусі Эвалдас Ігнатавічус. Спадар Пасол упэўнены: «Партрэт стагоддзя» — вялікі крок да прачытання творчасці К. Данелайціса на мове мастацтва, зразумелай прадстаўнікам розных краін і народаў».

**Яна ЯВІЧ**

# Рыцар сумнага вобраза

**Балет у двух дзеяннях «Сон Дон Кіхота» Людвіга Мінкуса праз 20 гадоў вярнуўся на сцэну Беларускага дзяржаўнага акадэмічнага музычнага тэатра. Прэм'ерныя паказы прайшлі 10 і 24 ліпеня.**

«Дон Кіхот» — адзін з самых папулярных балетаў. Яго стварыў аўстрыйскі скрыпач і кампазітар Людвіг Мінкус для харэографа Марыуса Петыпа па рамане іспанскага пісьменніка Мігеля дэ Сервантэса Саавердра «Хітрамудры ідальга Дон Кіхот Ламанчскі». Самая, бадай, вядомая рэдакцыя балета Аляксандра Горскага, уласныя інтэрпрэтацыі прапаноўвалі Аляксей Ратманскі і Барыс Эйфман.

Публіцы прадставяць новую версію спектакля. Лібрэта да музыкі напісаў народны артыст Беларусі, ён жа балетмайстар-пастаноўшчык Уладзімір Іваноў. Першая дзея — яго аўтарская рэдакцыя, у другую ўключаны эфектныя нумары харэаграфіі Аляксандра Горскага і Марыуса Петыпа.

— Раней у тэатры ішоў скарочаны да двух актаў спектакль у харэаграфіі Горскага. У ім было шмат пантамімы. Мы вырашылі яго аднавіць. «Дон Кіхот» — адна з перлін харэаграфіі, без якіх балетны тэатр не можа існаваць. Гэта няпростая пастаноўка — артыстам трэба да яе дарасці, — адзначыў балетмайстар-пастаноўшчык Уладзімір Іваноў.

— Дэкарацыі да спектакля рыхтавалі хутка — за паўтара месяца. Тым не менш відовішча атрымалася яркае, — сцвярджае мастак-пастаноўшчык Андрэй Меранкоў. — Класічны балет — іспыт для мастакоў, таму што тут складаней прыдумаць і асвятліць дэкарацыі. Першы акт у нас атрымаўся больш сучасным, другі — традыцыйным, але стылістычна пастаноўка глядзіцца як адно цэлае. Вельмі добрыя і касцюмы!

Галоўныя ролі выконваюць: Сяргей Глух, Ігар Ганчарык (Дон Кіхот), Майк Партуш, Арцём Кот (Санча), лаўрэаты міжнароднага конкурсу Міку Сузукі і Юлія Сліўкіна, дыпламант міжнароднага конкурсу Ксенія Станкевіч, Рырыка Іта (Кітры), лаўрэат міжнароднага конкурсу Дзмітрый Лазовік, Ігар Ганчарык (Базыль), Ірына Вайцекунас, Таццяна Ермалаева (валадарка дрыяд).

«Сон Дон Кіхота» — шосты балет у рэпертуарнай афішы. На сцэне музычнага тэатра таксама можна ўбачыць спектаклі «Асоль» Уладзіміра Саўчыка, «Шчаўкунок» Пятра Чайкоўскага, «12 крэслаў» Генадзя Гладкова, «Жызэль» Адольфа Адана, «Тысяча і адна ноч» Фікрэта Амірава.

**Таццяна ЛАНКОЎСКАЯ**





ЛіМ

**Выходзіць з 1932 года**
**У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў**
**Заснавальнікі: Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, ГА «Саюз пісьменнікаў Беларусі», РВУ «Выдавецкі дом «Звязда»**

**Галоўны рэдактар Таццяна Мікалаеўна СІВЕЦ**



**Юрыдычны адрас:**
220013, Мінск,
вул. Б. Хмяльніцкага, 10-а
**Адрас для карэспандэнцыі:**
220034, Мінск, вул. Захарава, 19
**Тэлефоны:**
галоўны рэдактар — 284-66-73
намеснік галоўнага рэдактара — 284-66-73
адказны сакратар — 284-97-09
аддзел крытыкі і бібліяграфіі — 284-66-71
аддзел прозы і паэзіі — 284-44-04
аддзел мастацтва — 284-82-04
аддзел «Кніжны свет» — 284-66-71
бухгалтэрыя — 287-18-14

Тэл./факс — 284-66-73

E-mail: lim_new@mail.ru

Адрас у Інтэрнэце: www.lim.by

Пры перадруку просьба спасылацца на «ЛіМ». Рукапісы прымаюцца толькі ў электронным выглядзе, не вяртаюцца і не рэцэнзуюцца. Аўтары паведамляюць прозвішча, імя і імя па бацьку, пашпартныя звесткі, месца працы, адрас з індэксам. Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з меркаваннямі і думкамі аўтараў публікацый.

Набор і вёрстка камп'ютарнага цэнтра РВУ «Выдавецкі дом «Звязда».

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.

**Выдавец:**
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда».

**Друкарня Рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства**
«Выдавецтва «Беларускі Дом друку»
ЛП № 02330/106 ад 30.04.2004
г. Мінск, пр. Незалежнасці, 79.

Індэкс 220013

Кошт у розніцу — 3600 рублёў

Наклад — 2317.

Умоўна друк. арк. 3,72

Нумар падпісаны ў друк 24.07.2014 у 11.00

Газета зарэгістравана ў Міністэрстве інфармацыі Рэспублікі Беларусь
Рэгістрацыйнае пасведчанне № 7 ад 22.07.2009 г.

Заказ — 2741.

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

ISSN 0024-4686